ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

24 лютага 1995 г. № 8 (3780) Кошт 200 руб.

## ДАРЭМНЫЯ СПАДЗЯВАННІ

*Язэп ПАЛУБЯТКА: "Я — рэаліст і не хачу слухаць ды чыніць непатрэбны хваласпеў пустым неабгрунтаваным спадзяванням. Гэта ўжо было ў нас і не трэба паўтарацца. Дзяржаўнасць нам была даравана боскай літасцю без крыві і гвалту. Дык на што нам яшчэ наракаць і спадзявацца?"*

**3—4**

## ДЗЕ ТОЙ "КРЫК, ШТО ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ"?

*Валерый ДРАНЧУК: "Памятаеце, вядомае Купалава: "...гэта крык, што жыве Беларусь", якое воляй песняра сімвалізуе найперш жывую прыроду Бацькаўшчыны, яе голас, яе "terra vita"? Так, жыве Беларусь, пакуль жывуць кулікі на яе балотах, пакуль жаўранак чуцен над полем, пакуль абуджаецца ўвесну сон-трава, пакуль ходзіць па нашай зямлі белавежскі зубр..."*

**5**

## VADE MECUM

*Генадзь СЕМЯНЧУК: "Прафесар Ткачоў — гэта ў першую чаргу аб'ектыўны даследчык. Гістарычная праўда, якога б зместу яна ні была, — галоўнае ў яго творчасці".*

**6—7**

## І ДАРОГА, І БЕЗДАРАЖ...

*Анатоль ІВЕРС: "Мне здаецца, што трэба паказваць хараство роднага краю, роднай мовы, паэтызаваць стваральную працу, змагацца супраць хлусні, якою апутвалі нас. Калі ўсім гэтым праймецца чалавек, то ён мацней будзе стаяць за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны".*

**13—14**



## ВЫСОКАЕ ДОЛІ ЗВАНОК

**Рыгор Іванавіч Барадулін... Народны паэт Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра. І проста чалавек, якому баліць за беларускасць, якому жадаецца, каб паспяхова ішло нацыянальнае Адраджэнне. І які прымае ў ім самы непасрэдны ўдзел. І словам, і справай.**

**З 60-годдзем, дарагі Рыгор Іванавіч! Жадаем Вам заставацца гэткім, як і сёння. Патрэбным паэзіі, патрэбным літаратуры. Патрэбным Беларусі.**

(Юбілейныя публікацыі чытайце на стар. 8-9).

Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА

***За постсавецкі час Беларусь, у адрозненне ад сваіх блізкіх і далёкіх суседзяў, так і не займела кіраўніка, які б на першае месца ставіў інтарэсы сваёй краіны, а не суседняй. Наадварот, дарваўшыся да ўлады, новы "лідэр пачынае ганьбаваць і прадаваць сваю дзяржаву, заклікаць да ўваходжання ў "зону", у "саюз", ці іншую нейкую халеру. Парадокс дый годзе. У суседзяў камуністы сталі нацыяналістамі, а ў нас жа хутчэй нацыяналісты стануць камуністамі (сацыялістамі), чымсьці наадварот. І справа не толькі ў дэнацыяналізацыі, русіфікацыі і інш. Справа яшчэ і ў тым, што не было і няма ў нас сапраўднага нацыянальнага лідэра (нездарма ж кажуць: "Які поп, такі і прыход"), які згуртаваў бы вакол сябе насельніцтва ў народ і павёў да сапраўднае незалежнасці. Ёсць сёння хіба антынацыянальныя лідэры (гаворым толькі пра тых, што пры ўладзе). Але што маем — тое маем...***

## АДВЕДКІ ТЫДНЯ

Прыезд прэзідэнта Б. Ельцына на Беларусь не стаўся падзеяй. Ні ў свеце, ні ў Расіі, ні ў Беларусі. Ці не таму, што ехаў ён з візітам не ў дзяржаву Беларусь, а, як абвяшчалася, у расійскіх сродках масавай інфармацыі, у горад Мінск... А ўрэшце аказалася, што ён проста пабыў у гасцях у свайго маладога калегі А. Лукашэнкі. Менавіта такую выснову можна зрабіць па выніках візіту. Бо падпісаныя дакументы нікога да нічога не абавязваюць і невядома яшчэ, ці будуць ратыфікаваны парламентамі. Расійскія газеты і тэлебачанне сціпла асвятлялі ход візіту — гэта таксама паказчык яго "значнасці". Выніковая прэс-канферэнцыя з удзелам кіраўнікоў дзяржаў, як гэта заведзена ў цывілізаваным свеце, не адбылася. Ці не таму, што гаварыць на ёй не было пра што, акрамя "асноўнай думкі", якую выказаў Б. Ельцын на сустрэчы з прадстаўнікамі творчай і навуковай інтэлігенцыі: "покушали хорошо"...

## ПАРАДА ТЫДНЯ

Падчас мерапрыемства, якое называлася рэспубліканскай нарадай па праблемах сельскай гаспадаркі, наш прэзідэнт А. Лукашэнка параіў "кіраўнікам аграпрамысловага комплексу" не балатавацца ў Вярхоўны Савет новага склікання. Былы дырэктар саўгаса аргументаваў сваю параду тым, што адначасова кіраваць вытворчасцю і займацца заканатворчасцю немагчыма, бо адсутнасць нават на працягу некалькіх дзён кіраўніка ў гаспадарцы — "расхалоджвае" людзей... Што ж, разумныя і сапраўды павінны вучыцца на чужых памылках.

## ХАРАКТАРЫСТЫКА ТЫДНЯ

З нагоды візіту расійскага прэзідэнта газеты апублікавалі афіцыйныя і неафіцыйныя паведамленні пра ганаровага госця. "Знамя юности" так прадставіла яго сваім чытачам: "Ельцын Барыс Мікалаевіч, 1931 года нараджэння, рускі, беспартыйны, не асуджаўся. Вядомы па працы ў Свярдлоўскім абкаме КПСС, кнізе "Споведзь на зададзеную тэму", жніўеньскіх прамовах і кастрычніцкіх залпах у ваколіцах "Белага дома", а таксама чыстасардэчным прызнанні аб спыненні бамбардзіровак чачэнскай сталіцы..."

## НЕПАРАЗУМЕННЕ ТЫДНЯ

Дык уступіла Беларусь у сістэму калектыўнай бяспекі краін СНД ці не? Калі верыць спікеру парламента М. Грыбу, то — не, бо дагавор не ратыфікаваны нашым Вярхоўным Саветам. Калі ж верыць народнаму дэпутату С. Навумчыку, дагавор ратыфікаваны яшчэ пры С. Шушкевічу, але з агаворкамі, згодна з якімі Беларусь практычна не ўдзельнічае ў сістэме калектыўнай бяспекі. БНФ між тым пачаў збор подпісаў за рэферэндум аб дэнансацыі дагавора аб калектыўнай бяспецы і за вывад з тэрыторыі Беларусі расійскіх войск і закрыццё ваенных баз.

## "ЛІЧБА" ТЫДНЯ

Амаль тры мільёны рублёў адшкадаваў Брэсцкі абласны Савет на праграму развіцця беларускай мовы ў вобласці ў 1995 годзе. Гэтая лічба сёння каментарыяў не патрабуе. Дзякуючы "клопату" такіх вось "сыноў і дачок" Айчыны і гіне родная мова.

## АБСУРД ТЫДНЯ

Не перастае здзіўляць нас беларускі парламент. На мінулым тыдні ён так і не змог прыняць Закон "Аб дзяржаўных узнагародах і ганаровых званнях Рэспублікі Беларусь". Калі "савецкая" частка ўзнагарод у большасці дэпутатаў амаль не выклікала пярэчанняў, дык вакол "беларускай" — разгарэліся дэбаты. Дэпутаты не захацелі прыняць ні ордэн Кастуся Каліноўскага (гэтае імя у і пры бальшавіках не было забароненым), ні медаль Адраджэння... Наш парламент так і не пазбавіўся "дзямянцееўскага сіндрому": ад усяго беларускага яго кідае то ў жар, то ў холад.

## ЖАХ ТЫДНЯ

З 21 лютага ў чатыры разы павышаны кошт праезду па чыгунцы ў цягніках мясцовых зносін.

## ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ.

Жахлівае здарэнне адбылося ў вёсцы Пятроўшчына Маладзечанскага раёна. Хлапчук-пяцікласнік, які нагледзеўся па тэлевізары "страшных" фільмаў, вырашыў паказаць сястры, "як у кіно вешаюць людзей", і выпадкова павесіўся сам...

## ЧУТКА ТЫДНЯ

У Мінску ўкараняецца новая форма барацьбы з "зайцамі" на транспарце. Яна досыць радыкальная. Следам за трамваем едзе міліцэйскі "варанок". Трамвай паміж прыпынкамі спыняецца, і кантралёры перасаджваюць безбілетнікаў з грамадскага транспарту на службовы.Ну як?

Па ідэі, міліцэйскую машыну павінна суправаджаць "Хуткая дапамога" — для "зайцоў", слабых на сэрца.

# ТОЛЬКІ РАЗ У ЖЫЦЦІ ВЫЙШАЎ Я ЎПЯРОД ...

21-га мы дварамі дабіраліся ў рэдакцыю: плошча Перамогі была ачэплена. Чакалася ўскладанне вянкоў расійскай дэлегацыяй на чале з Барысам Ельцыным.

Колькасць міліцыі ўражвала. Былі блакіраваны ўсе пад'езды жылых дамоў бліз плошчы Перамогі. Паабапал праспекта Машэрава ахоўнікі парадку стаялі, як зэкі: рукі за спіной і адвярнуўшыся ад праезджай часткі. Правяраліся і ўзмоцнена ахоўваліся масты, у тым ліку і ў раёне Драздоў. Снавалі спецыяльныя машыны невядомага прызначэння і крытыя будкі з надпісам "Людзі" (г. зн. міліцыянты). Міліцэйскае начальства пакрыквала.

Нейкая нервознасць вісела ў паветры. Можна было падумаць, што горад не высокага госця сустракае, а рыхтуецца да варожай асады. Альбо прэзідэнт Расіі прыбыў з візітам не ў братні Мінск, а сама меней — у Грозны, дзе на кожным кроку падсцерагае небяспека.

Хутчэй за ўсё, гэта расійская служба бяспекі паставіла "на вушы" нашы адпаведныя ўнутраныя падраздзяленні. Бо калі летась прыязджаў Біл Клінтан, усё было нашмат спакайней і цывілізаваней.

На пытанне журналістаў адносна магчымай страты суверэнітэту Беларуссю А. Лукашэнка не знайшоў уласных слоў, а спаслаўся на выказванне А. Козырава: маўляў, гэта не ў інтарэсах Расіі. А калі б было "ў інтарэсах", то што? "Прыемнага апетыту", — сказаў трус удаву?..

Беларусь аказалася першай у міждзяржаўнай дамове аб інтэграцыі. У Беларусі на тое болей правоў, ёй аддадзены прыярытэт, падкрэсліў у кароткім інтэрв'ю Б. Ельцын. Час пакажа, ці варта было спяшацца "паперад бацькі", забыўшыся пра нашу звыклую абачлівасць.

На прэс-канферэнцыі чакалася прысутнасць дзвюх пар: А. Козыраў — У. Сянько, А. Бальшакоў — М. Мясніковіч, але прыбылі толькі віцэ-прэм'еры. З пытанняў мясцовых і замежных прадстаўнікоў мас-медыя і адказаў на іх вынікала наступнае.

Пастаўлена задача стварэння адзінай эканамічнай прасторы. У нас "няма праблем" у адносінах з Расійскай Федэрацыяй, патрабуецца адно практычная рэалізацыя намечаных праектаў. У рамках дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве падпісана 8 пагадненняў, у тым ліку па межах, мытні і абароне. Ці вынікае з пагаднення па межах, што расійскія пагранічнікі возьмуць на сябе ахову беларускай мяжы? Не, прамая служба не плануецца. Аднак пры эканамічным саюзе трэба быць упэўненымі ў надзейнай ахове межаў, патлумачыў А. Бальшакоў. Выходзіць, што беларускі бок не ў стане самастойна забяспечыць памежны парадак на заходнім кірунку і патрабуецца падмога партнёраў? Формула "ўзаемны кантроль" выглядае смешнавата. Не будзем жа мы кантраляваць ахову руска-кітайскай, скажам, граніцы...

Што не дагаворваюць, пакідаюць у падтэксце палітыкі, тое бясхітрасна прамаўляюць практыкі. Так, супрацоўнік мытні "Заходні Буг" у вячэрніх навінах БТ назваў пагадненне па мытнях "шагом на пути к воссоединению славянских народов". Калі падобныя намеры існуюць, то яны такія ж рэальныя як пабудова камунізму.

Карэспандэнт польскага радыё, прадэманстраваўшы валоданне беларускай мовай, палытаўся, чаму прэзідэнт РФ не пажадаў сустрэцца з апазіцыяй. Але віцэ-прэм'ер не ўпаўнаважаны быў адказваць за прэзідэнта. Ды і апазіцыя наўрад ці выказвала такое жаданне.

У кулуарах журналісты ажыўлена абмяркоўвалі фразу, нібыта сказаную Б. Ельцыным: "Участие в союзе требует меньшего ума". Магчыма, магчыма... Будзем спадзявацца, што "больший ум" нашых улад пойдзе на патрэбы культуры і нацыянальнага будаўніцтва.

**НАШ КАР.**

# ПРЭТЭНЗІІ І МАГЧЫМАСЦІ

17—18 лютага ў Рэспубліканскім культурна-асветным цэнтры працавала "Нацыянальная асамблея прагрэсіўных сіл Рэспублікі Беларусь" (так было зазначана ў запрашальніках), арганізаваная Нацыянальнай асацыяцыяй садзейнічання сацыяльна-эканамічнай рэформе "Геапалітыка. Інтэграцыя. Прагрэс". Мэтамі асамблеі, сярод іншага, ставіліся "забеспячэнне і каардынацыя ўзаемадзеяння прагрэсіўных сіл Беларусі напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет", "паглыблены аналіз і ацэнка сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сітуацыі на Беларусі", "стварэнне кансультацыйных грамадскіх фарміраванняў для аказання прафесійнай дапамогі кандыдатам у дэпутаты, дэпутатам, вытворцам, бізнесменам, журналістам, органам выканаўчай улады, грамадзянам" (?), "садзейнічанне фарміраванню чацвёртай улады ў Рэспубліцы Беларусь". Мэты, як бачна, ставіліся сапраўды "нацыянальнага" ўзроўню, але ці рэальным было іх дасягненне?

Па-першае, насычаная праграма асамблеі (некалькі "навукова-практычных канферэнцый" па сацыяльных аспектах рэформ, карупцыі, "антытаталітарнай дзейнасці" (?), антыкрызіснай эканамічнай праграме і да т.п., "круглыя сталы" гаспадарнікаў, прафсаюзных лідэраў і палітыкаў і інш.) заўважна раздрабніла інтэлектуальныя высілкі ўдзельнікаў (а сярод іх было запрошана не толькі багата тутэйшых філосафаў, эканамістаў і сацыёлагаў, але і прадстаўнічыя постаці з Масквы і Украіны, — В. Мяжуеў, В. Таўстых, А. Панарын, А. Кара-Мурза і інш.). Таму сталася непазбежнай пагроза ператварэння інтэлектуальнага форуму ў звычайную "гаварыльню" па пытаннях, якія, у сваю чаргу, для Беларусі носяць пакуль што хіба намінатыўны характар, — напрыклад, "сістэмная трансфармацыя беларускай дзяржавы ў посттаталітарны перыяд".

Па-другое, само палітычнае і навукова-метадалагічнае аблічча Нацыянальнай асацыяцыі садзейнічання сацыяльна-эканамічнай рэформе даволі невыразнае і размаітае, што робіць яе прэтэнзію на "каардынацыю прагрэсіўных сіл Беларусі" таксама досыць нерэалістычнай.

Тым не менш, праца, і немалая, праведзена, і хто ведае — можа, інтэлектуальныя сілы Беларусі — прытым сілы шырокія, не толькі "нацыянальна свядомыя", — таксама спакваля ўлучацца ў рух за абарону і належнае асэнсаванне "нацыянальных інтарэсаў" Рэспублікі Беларусь? Прынамсі, зараз, у пераходны перыяд, калі інтэлект як такі пануючай уладай фактычна пагарджаны, навукоўцы і інтэлектуалы пры пэўным жаданні і ўмовах могуць скансалідавацца ў шырокі грамадска-апазіцыйны рух, чыннасць якога, улічваючы хісткасць сацыяльна-палітычнай сітуацыі, можа мець наступствы непрадказальныя. Галоўнае, каб гэтыя высілкі былі сапраўды патрыятычныя, г. зн. каб пад "Радзімай" разумеўся не той СССР, а сённяшняя рэальная Беларусь.

**Ю. Л.**

Пошта

# НАБАЛЕЛАЕ

**Чакалі паўгода**
**дзяўчынку арэлі —**
**Блакітныя вочкі**
**патухлі, згарэлі...**

**— Жыццё...**
**Нават лекі**
**купіць немагчыма.**
**На рынку уколы**
**каштуюць мільёны...**
**У гэтай журботнай,**
**галоднай жанчыны**
**Змарнела, памерла**
**дзяўчынка Алёна.**
**Матуля галосіць —**
**ніхто і не чуе,**
**А той вунь за лекі**
**харомы будуе.**

**Няўжо мы без Бога**
**зусім азвярэлі?!**

**Самотна рыпяць**
**без дзяўчынкі арэлі...**

***

**Калі б смерць хоць раз**
**здрадзіла свайму жорсткаму**
**пастаянству —**
**да яе пацягнуліся б**
**мяснікі з кумпякамі,**
**ювеліры з пярсцёнкамі...**
**Хапугі паднеслі б**
**пярыны з даляраў...**
**Яна на той свет адпраўляла б**
**адно бедных**
**і няўмеючых хітраваць.**
**Уся свалата**
**бессмяротнаю стала б.**
**Добра, што хоць смерць**
**непадкупная...**

**Анатоль СТАНКЕВІЧ,**
**сталяр Баранавіцкага**
**станкабудаўнічага завода**

# ІВАН НАВУМЕНКА — НАРОДНЫ ПІСЬМЕННІК БЕЛАРУСІ

Тыдзень назад мы віншавалі Івана Якаўлевіча з 70-годдзем, а з другой слаўнай падзеяй у яго жыцці павіншаваць не паспелі. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі за вялікі ўклад у развіццё беларускай літаратуры Івану Навуменку прысвоена ганаровае званне "Народны пісьменнік Беларусі". Ад усяго сэрца віншуем Вас, дарагі Іван Якаўлевіч, жадаем і надалей нязменных творчых поспехаў як у жыцці, так і ў літаратурнай, навуковай дзейнасці!

ДНІ ЎКРАІНСКАЙ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА

# "МАГУТНАЯ АКЦЫЯ ДУХОЎНАГА ЯДНАННЯ"

***Так выказаўся пра Дні культуры Украіны ў Мінску надзвычайны і паўнамоцны пасол Украіны ў Беларусі Уладзімір Жаліба. Дадаў, што ладзіцца яны будуць на самым высокім узроўні паводле спецыяльнага рашэння Кабінета Міністраў.***

23 лютага ў 8 гадзін раніцы амаль усе дзвесце чалавек дэлегацыі адным цягнікам прыбылі прадстаўляць Украіну Беларусі. У 1993 годзе, нагадаем, падобную падзею перажывала і Украіна: дні Беларусі тады напаткала зацікаўленасць шматлікіх спонсараў з украінскага боку (у нас, на жаль, гэтым займаецца толькі дзяржава). Праўда, карэспандэнта "ЛіМа" сярод таго журналісцкага дэсанту не было, такім чынам думка спадара пасла Украіны і спадара міністра культуры і друку Беларусі пра мацаванне асабістых кантактаў, на чыёй глебе квітнее добрая воля і згода саміх творцаў, для нас мае шанц увасобіцца ў справу толькі цяпер дый тое — з 23 па 26 лютага. На прэс-канферэнцыі з нагоды ўкраінскіх дзён у Мінску было абвешчана пра цэлую сістэму захадаў па супольным супрацоўніцтве між рэспублікамі. Дакументальна будзе пацверджана тое, што даўно, ажно з савецкае часіны, існуе і вымагае ўвагі, павагі ды прызнання, — тое, што ўрачыста называлася "дружбай народаў" і часцяком ператваралася ў "дні культуры"... Як для каго, а дня нас падобная імпрэза сёння — сведчанне таго, што самым дарагім па-ранейшаму застаецца, перапрашаю, самае таннае паводле сістэмы цяперашніх беларускіх укладанняў ды размеркаванняў: культурныя каштоўнасці ды чалавечыя дачыненні. Калі Анатоль Салаўяненка бярэ ўдзел ва ўшанаванні памяці Зіновія Бабія, адклаўшы самыя прэстыжныя акцыі ды запрашэнні. Калі ўкраінскі прадпрымальнік Юрый Шэхталь аплачвае гастролі ў Кіеве Альтэрнатыўнага тэатра з Мінска. Калі, нягледзячы на сістэму рангаў ды заахвочванняў, прыз "Кіеўская пектараль", — прэстыжная ўзнагарода Саюза тэатральных дзеячаў Украіны, якую мае сам непараўнальны Багдан Ступка, аддаецца ў рукі маладога і наравістага беларускага акцёра Артура Шуляка...

Гэтым разам, паводле сп. Бутэвіча, дні культуры не становіцца простаю данінаю старой традыцыі. Перадусім таму, што стасункавацца пажадалі дзве незалежныя краіны. Таму, што Украіна прадстаўлена не адным Кіевам. Таму, што пратакол аб супрацоўніцтве, які ўрачыста падпішуць, ужо ўзгоднены абодвума бакамі без затрымак ды агаворак. А што да духоўнага яднання, пра якое згадаў сп. украінскі пасол, дык з сённяшняю матэрыяльнаю незаможнасцю нам іншага і не выпадае...

---

Учора ў нашай дзяржаве пачаліся Дні ўкраінскай культуры і мастацтва. Яны не такія і працяглыя, закончацца 26 лютага. Не тое, што раней, калі падобныя мерапрыемствы доўжыліся тыдзень, а то і дэкаду. Але ж раней многае рабілася па прымусу, ці, прынамсі, з ідэалагічных меркаванняў. Цяпер жа — па праву суседства і нязменнай дружбы двух народаў. І дзвюх суверэнных дзяржаў.

Сёлетнія мерапрыемствы, як вядома, праходзяць у адказ на Дні культуры Рэспублікі Беларусь, якія перад гэтым праводзіліся на Украіне. Тады было нямала шчырых, сяброўскіх сустрэч, кантактаў, што ідуць толькі на карысць абодвум бакам. Не менш адбудзецца ў гэтыя дні і ў нас — праграма ж багатая, разнастайная. Ды і творчы дэсант прыехаў вунь які прадстаўнічы. Арганізацыйны камітэт узначальвае віцэ-прэм'ер-міністр Украіны Іван Курас.

Мінчане і госці сталіцы маюць магчымасць пазнаёміцца з лепшымі фільмамі ўкраінскіх кінематаграфістаў, наведаць выстаўку ўкраінскага авангарда, экспазіцыю кніг з фондаў Нацыянальнай парламенцкай бібліятэкі Украіны, шэраг канцэртаў, на якіх можна сустрэцца з праслаўленымі выканаўцамі і вядомымі калектывамі.

Меркаванне

# ДАРЭМНЫЯ СПАДЗЯВАННІ

Мы — нацыя бяздумных спадзяванцаў. Спадзяванцаў невядома на што і адначасова на ўсё і ўсіх. У той момант, калі неабходна рашуча дзейнічаць, ладзіць свой эканамічны дабрабыт, мацаваць кволую дзяржаўнасць, мы спадзяёмся. Шчыра спадзяёмся на чужога добрага дзядзьку, што ён, як бацька родны, паклапоціцца пра нас. І нават таго дзядзьку адшукалі, але ён аказаўся не надта шчодры, сам з нас тры шкуры дзярэ. Спадзяваліся мы летась, абіраючы першага прэзідэнта. Паверылі чалавеку, абралі. Зараз, на жаль, са смуткам даводзіцца канстатаваць, што спроба — няўдалая і спадзяванні былі дарэмныя. Жыццё пагоршылася ўвачавідкі і паляпшэння яго ў акрэслены час не прадбачыцца. Цяпер свае спадзяванні мы скіравалі на выбары ў Вярхоўны Савет і змену яго складу, што адпаведна павінна выклікаць змены ў нашым жыцці, палепшыць яго. Вось і атрымліваецца, што ўсё наша свядомае жыццё — спадзяванне.

Можа, усё ж хопіць гвалтаваць сябе нерэальнымі спадзяваннямі, а цвяроза паразважаць над тым, што маецца адбыцца і ўрэшце адбудзецца, каб потым не канстатаваць іх марнасць?

У Рэспубліцы Беларусь гэта будуць першыя дэмакратычныя выбары пасля скону КПСС і распаду Савецкага Саюза. У нашых суседзяў яны ўжо адбыліся. Вынікі? Для дэмакратаў яны не суцяшальныя. Прыкладам, у Літве сталася параза "Саюдзіса" і вяртанне камуністаў (праўда, пад новаю назваю) на чале з Бразаўскасам. Выбары ў Дзяржаўную Думу ў Расіі, на якую мы так любім спасылацца і льсціва пазіраем, таксама не прынеслі дэмакратам жаданага поспеху. Тое самае можна сказаць і пра іншыя краіны. Але не будзем спасылацца на чужаземны вопыт, каб не было лішніх папрокаў наконт няведання сітуацыі ва ўласным доме. Не будзем спасылацца на вынікі замежных выбараў хоць бы таму, што ва ўсіх краінах былой сацыялістычнай садружнасці ўсе партыі і рухі незалежна ад іх палітычнай афарбоўкі, як і сам народ, маюць адно агульнае — выступаюць за самастойнасць і незалежнасць уласнае дзяржавы. Чаго не скажаш пра нас. Нават прэзідэнт не супраць пасады генерал-губернатара. Аб чым тут можна яшчэ гаварыць!

Сітуацыя ў нашай краіне такая, што пэўных змен ні палітычнага, ні эканамічнага курсу ў бліжэйшыя некалькі гадоў не прадбачыцца, не толькі зараз. Не прадбачыцца хаця б таму, што прайшоў невялікі прамежак часу і ніякіх звышважных падзей у нашым грамадстве, якія маглі б палітычна ўскалыхнуць яго і прабудзіць, не адбылося. Сфармаваныя на сярэдзіну лета палітычныя партыі, рухі і плыні і зараз засталіся такімі ж нешматлікімі ды без'языкімі (я маю на ўвазе адсутнасць друкаваных органаў ці малы іх наклад, немагчымасць звярнуцца да народа праз радыё і тэлебачанне). Просты чалавек як не ведаў, так і не ведае пра іх існаванне. Ён яшчэ можа растлумачыць спалучэнне літар БНФ, БСДГ ды ПКБ, а вось што такое АДПБ ці НДПБ — цёмны лес. Не ведае, за рэдкім выключэннем, іх палітычныя мэты і задачы, не знаёмы з іх эканамічнымі і сацыяльнымі праграмамі. Ды і новы выбарчы закон не дае магчымасці партыям выступіць на выбарах як адзінае цэлае (маючы на ўвазе партыйныя спісы), засяродзіць на ўсіх сваіх партыйных атрыбутах увагу выбаршчыкаў. Дык як жа і каго тады выбіраць? Погляд чалавека (выбаршчыка) будзе цалкам скіраваны на персаналіі кандыдатаў у дэпутаты. Абранне будзе залежаць ад таго, ведаюць ці не ведаюць яго людзі ў гэтай выбарчай акрузе. Я вяду гутарку не пра імідж кандыдата, які звычайна ствараюць сродкі масавай інфармацыі ды яго атачэнне (не будзе такога з-за адсутнасці свабоднай прэсы і дастатковых фінансавых сродкаў для вядзення выбарчай кампаніі). Будзе іншае: на слыху ў выбаршчыкаў будуць імёны цяперашніх нардэпаў і мясцовага начальства.

Адпаведна з новым выбарчым законам колькасць выбарчых акруг скарочана да 260. У цяперашнім ВС колькасць народных абраннікаў на 100 больш. Некаторая частка іх перайшла працаваць у каманду прэзідэнта. Астатнія "пачэсна" выконваюць свой абавязак. І гэта "цяжкая" справа ім так даспадобы, што яны рашуча адмовілі рэферэндум, праігнаравалі самімі ж назначаны час датэрміновых выбараў і нават выказвалі пажаданне яшчэ "натхнёна" папрацаваць год звыш тэрміну. Смачны дэпутацкі хлеб, асабліва калі ты нічога істотнага не робіш для сваіх выбаршчыкаў, не дбаеш пра дабрабыт краіны, а клапоцішся толькі пра сябе. Усё гэта сведчыць аб тым, што цяперашнія народныя абраннікі шчыльнымі радамі пабягуць шукаць прыдатныя для сябе выбарчыя акругі. Акруг жа менш, чым дэпутатаў. Пабягуць, не думаючы пра дзяржаву і дзяржаўныя інтарэсы, а дзеля таго, каб адстаяць свае асабістыя інтарэсы, і пакрыўджаныя, адхіленыя ад улады (прозвішчы іх на слыху ва ўсіх). Яны любяць палітычныя гульні, любяць у іх гуляць, на іх руках шматлікія казырныя карты (скандальная інфармацыя), якія шмат каго зацікавяць. Колькі будзе "перамыта бруднай бялізны"! Шмат хто з выбаршчыкаў паверыць у шчырасць слёз і праўдзівасць слоў іх.

Цяперашнія народныя дэпутаты больш спрактыкаваныя ў палітычнай барацьбе за навічкоў. Апошнія ж, г. зн. дэмакраты мясцовага ўзроўню, вядомы вузкаму колу сваіх паплечнікаў і знаёмых. Значыць, умовы барацьбы не роўныя.

Сталічным дэмакратам не трэба цешыць сябе надзеяю, што гіперінфляцыя ды абвальны спад эканомікі прымусілі выбаршчыкаў у правінцыі змяніць свае погляды і павярнуцца тварам да дэмакратаў. Людзі расчараваліся ў сваім абранніку, але спадзяванні на справядлівага "тату", які адбярэ ў сучасных багацеяў і раздасць ім, жабракам, засталіся, і з гэтым неабходна лічыцца, праводзячы выбарчую кампанію. Таксама не трэба разлічваць на тое, што ўсе цяперашнія дэпутаты дэмакратычнага накірунку будуць абраны ў новы склад ВС. Прычыны таму могуць быць вельмі розныя.

Няварта акцэнтаваць перадвыбарчую барацьбу і на змаганні з камуністамі (чытай — ПКБ). Як паказалі мінулыя выбары, яны не канкурэнты. Канкурэнты — камуністы без білетаў, кандыдаты ад нікім не зарэгістраванай партыі наменклатуры. Яны маюць фінансы, у іх руках сродкі масавай інфармацыі, іх абяцанні будуць выглядаць больш рэальнымі і важкімі (хоць іх ніхто і ніколі не будзе выконваць), чым абяцанні дэмакратаў. Па абяцанках наменклатуршчыны партыйцам няма роўных.

Сярод кандыдатаў у дэпутаты будзе нямала прыхільнікаў прэзідэнта, такіх асоб, як усім сумнавядомы Посахаў ды іншыя. Іх перадвыбарчая агітацыя будзе скіравана на крытыку дзейнасці цяперашняга Вярхоўнага Савета, на тое, як ён замінаў працы прэзідэнта. І будуць такія, хто паверыць у іх словы, бо верыць яшчэ прэзідэнту.

Сярод кандыдатаў знойдуцца асобы, хто згодзен стаць пад любыя штандары (звычайна прыкрываюцца шыльдаю: дэмакрат), толькі б быць народным абраннікам. Яскравы прыклад таму — усім вядомы В. Ганчар.

Але гэта ўжо акалічнасці. Справа — у іншым.

Грамадству стаць дэмакратычным немагчыма ў адначассе. Нават самая дэмакратычная канстытуцыя, нават самы дэмакратычны выбарчы закон не гарантуюць абранне дэмакратычнага парламента. Яго гарантуе дэмакратызм самога грамадства, яго палітычная свядомасць. Якая свядомасць у нашых людзей — відавочна сведчаць вынікі мінулых выбараў. Не змянілася яна на працягу апошняга года. Не трэба заплюшчваць на гэта вочы і ўводзіць сябе ў зман.

У краінах Захаду інстытуты дэмакратыі фармаваліся даволі працяглы час і не адно пакаленне выбаршчыкаў. Нам жа хочацца ўсё адразу.

*(Працяг на стар. 4)*

# НЕЧАРГОВЫ, ДЗЕЛАВЫ...

20 лютага ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбыўся нечарговы з'езд Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Як паведамлялася ў прэсе, з'езд скліканы па рашэнні Вялікай Рады ЗБС дзеля таго, каб унесці пэўныя змены і ўдакладненні ў статут арганізацыі, што выкліканы новым заканадаўствам аб грамадскіх аб'яднаннях.

На з'езд прыехала каля 50 сяброў Вялікай Рады ЗБС, прадстаўнікоў замежных беларускіх суполак і краін, у якіх жывуць беларусы. Змены ў статут унесены; адбыўся абмен думкамі па пытаннях бягучай палітыкі ЗБС.

**НАШ КАР.**

# ГРАМАДА ІДЗЕ ДА ВЫБАРАЎ

18 лютага 1995 года ў Мінску адбылася першая сесія III з'езда Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады. На з'ездзе прысутнічалі прадстаўнікі сацыял-дэмакраты Польшчы, Расіі, Латвіі і Украіны. Прагучалі выступы старшыні Партыі БНФ сп. Пазняка, лідэра АДПБ сп. Дабравольскага, старшыні БЗВ М. Статкевіча, кіраўніка Саюза прадпрымальнікаў Беларусі сп. Карагіна і іншых гасцей з'езда. Удзельнікі з'езда ўнеслі некаторыя змены ў праграму Грамады, прынялі новую рэдакцыю статута партыі, ухвалілі тэзісы эканамічнай перадвыбарчай праграмы БСДГ, абралі новы склад кіруючага органа партыі — Цэнтральнай рады і Кантрольна-рэвізійнай камісіі. Паўнамоцтвы лідэра партыі, дэпутата ВС А. Трусава і яго паплечнікаў былі прадоўжаны да сканчэння выбараў у Вярхоўны Савет. Другая сесія III з'езда БСДГ адбудзецца праз месяц — 18 сакавіка 1995 года. Яе галоўная мэта — вылучэнне кандыдатаў ад БСДГ у склад новага Вярхоўнага Савета Беларусі.

**ПРЭС-ЦЭНТР ГРАМАДЫ**

# НА ПРЭМІІ ФПБ

***Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі разгледзела матэрыялы і работы, якія вылучаны на атрыманне прафсаюзных прэмій 1995 года, і паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе допушчаны:***

1. ЗА ТВОРЫ ПРОЗЫ І ПАЭЗІІ (адна прэмія):

Змітрок МАРОЗАЎ — зборнікі вершаў "Ачышчэнне сяўбой". Мінск, "Мастацкая літаратура", 1992 год; "Сын чалавечы". Мінск, "Пасад", 1993 год;

Павел ПРУДНІКАЎ — за зборнік "Познія ягады". Мінск, "Мастацкая літаратура", 1990 г.; аповесць "За калючым дротам", "Мастацкая літаратура", 1993 г.

2. ЗА МУЗЫЧНЫЯ ТВОРЫ І КАНЦЭРТНА-ВЫКАНАЛЬНІЦКУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ (адна прэмія):

Віктар ВОЙЦІК (кампазітар) — за дзіцячую оперу "Вясновая песня";

Галіна КАЛІНІНА (артыстка Віцебскай абласной філармоніі) — за высокія дасягненні ў мастацкай творчасці і актыўную работу па развіцці народнай культуры;

Андрэй ШПЯНЁЎ (артыст Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі) — за аранжыроўку музычных і канцэртных праграм апошніх год.

3. ЗА РАБОТЫ Ў ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА- І КІНАМАСТАЦТВА (адна прэмія):

Людміла ВОЛКАВА (артыстка Гродзенскага драматычнага тэатра) — за выкананне ролі Норы ў спектаклі "Нора" Г. Ібсена;

Рышард ЯСІНСКІ (кінарэжысёр) — за дакументальныя фільмы "Зямля Тарасевіча", "Барыс Кіт", "За нашу і вашу свабоду".

4. ЗА ТВОРЫ ЖЫВАПІСУ, СКУЛЬПТУРЫ, ГРАФІКІ І ПРЫКЛАДНОГА МАСТАЦТВА (адна прэмія):

Мікалай БАЙРАЧНЫ (мастак) — за керамічныя скульптурныя кампазіцыі "Куды ідзеш?", "Ідэнтыфікацыя", "У самы поўдзень";

Ігар ГОЛУБЕЎ (скульптар) — за скульптурную кампазіцыю "Язэп Драздовіч", усталяваную ў Траецкім прадмесці г. Мінска.

5. ЗА РАБОТЫ Ў ГАЛІНЕ ЖУРНАЛІСТЫКІ (адна прэмія):

Акім МАЛЧАНАЎ — за серыю артыкулаў па чарнобыльскай тэматыцы і пытаннях развіцця аховы здароўя ў рэспубліцы;

Валерый РАДУЦКІ, Алена ШВАЙКО, Аляксандр ШАЎКО — за падрыхтоўку перадач інфармацыйнай праграмы "Радыёфакт";

Валерый ШУМІЛАЎ — за серыю артыкулаў за цвярозы і здаровы спосаб жыцця.

6. ЗА АКТЫЎНУЮ РАБОТУ ПА РАЗВІЦЦІ НАРОДНАЙ КУЛЬТУРЫ І САМАДЗЕЙНАЙ ТВОРЧАСЦІ (адна прэмія):

Валянціна БЕРАСНЕВА — кіраўнік народнага фальклорнага ансамбля "Жывіца" Лоеўскага раённага Дома культуры;

Дзмітрый БЯЗБОЖНЫ — дырэктар Палаца культуры прафсаюзаў г. Віцебска;

Надзея КАВАЛОЎСКАЯ — дырэктар Фонду сацыяльных гарантый культуры "Творчасць" аб'яднання прафсаюзаў Гомельскай вобласці.

7. ЗА ВЫСОКІЯ ДАСЯГНЕННІ Ў САМАДЗЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ (адна прэмія):

Народны самадзейны калектыў Гродзенскіх электрычных сетак "БЛІСКАВІЦА";

Народны вакальны ансамбль ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл "ПАМЯЦЬ" Дома ветэрана г. Мінска;

Узорны харэаграфічны ансамбль "РАДАСЦЬ" Палаца культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя В. В. Куйбышава;

НАРОДНЫ ХОР Віцебскага адкрытага акцыянернага таварыства "КІМ".

Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі, самадзейнай творчасці звяртаецца з просьбай да творчых саюзаў, культурна-асветных устаноў, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый, калектываў прадпрыемстваў і навучальных устаноў, грамадзян рэспублікі правесці абмеркаванне кандыдатур на атрыманне прэміі ФПБ 1995 года.

Вашы водгукі, заўвагі, прапановы просім да 1 красавіка 1995 г. накіраваць па адрасе: 220126, г. Мінск, пр. Машэрава, 21, Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Камісія па прэміях ФПБ.

## ПРЭМІЯ КУПАЛАЎСКАЯ... ВІТАЮЦЬ КУПАЛАЎЦЫ...

**Як вядома, Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь, якая прысуджана Раісе Баравіковай за кнігу паэзіі "Люстэрка для самотнай", носіць імя народнага песняра Янкі Купалы. І таму зразумела, што калектыў Літаратурнага музея імя Янкі Купалы вырашыў правесці сустрэчу з новым лаўрэатам.**

**Па традыцыі, у Купалавым доме сабраліся шчырыя прыхільнікі літаратуры — студэнты, настаўнікі, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў...**

**У цэнтры ўвагі была сама паэтэса. Яна расказала аб сваім шляху ў літаратуру, прыгадала шмат якія моманты жыццёвай і творчай біяграфіі, людзей, якія дапамаглі ёй і ў тым жыцці, і ў літаратуры, чытала вершы — як ранейшыя, так і новыя.**

**Разам з Раісай Андрэеўнай у купалаўцаў былі Любоў Філімонава, Алена Папова, кінарэжысёр Міхаіл Пташук...**

**У канцэрце прагучалі песні на словы Р. Баравіковай у выкананні Надзеі Мікуліч. Парадаваў прысутных і фальклорны ансамбль "Жавароначкі".**

**Н.К.**

## КОНКУРС ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Конкурс на стварэнне п'ес для тэатра пад дэвізам "Гісторыя і сучаснасць" працягваецца да 25 верасня сёлетняга года.**

**Мэта конкурсу — умацаванне ролі тэатральнага мастацтва ў адраджэнні і развіцці нацыянальнай культуры, узбагачэнне рэпертуару новымі арыгінальнымі творамі драматургіі, якія ў высокамастацкай форме адлюстроўваюць найважныя падзеі ў гісторыі Беларусі ды сённяшні яе дзень.**

**На конкурс прымаюцца беларускамоўныя шматактовыя п'есы для драматычнага тэатра і п'есы для дзіцячага і лялечнага тэатраў.**

**Да разгляду дапускаюцца толькі тыя творы, што не будуць апублікаваны ці публічна выкананы раней за афіцыйнае падвядзенне вынікаў конкурсу.**

**П'есы высылаюцца на конкурс у двух машынапісных экземплярах без указання прозвішча аўтара, — замест прозвішча дадаецца асабісты аўтарскі паштовы канверт з пазначкай аўтарскага дэвіза, у якім захоўваецца прозвішча аўтара і ўказаны ягоны адрас.**

Матэрыялы дасылаюцца на адрас: 220617, Мінск, ГСП, пр. Машэрава, 11, Міністэрства культуры і друку рэспублікі Беларусь, упраўленне па справах мастацтва, "На конкурс п'ес для тэатра".

**Для заахвочвання ўдзельнікаў вызначаны шэраг грашовых прэмій.**

**Л.М.**

## БАГАТАЯ САКАВІЦКАЯ АФІША

**Дома літаратара. Творчая вечарына Васіля Ткачова пад назвай "Па дарозе ў Аўцюкі" пройдзе " 2 сакавіка.**

**На 10 сакавіка запланавана вечарына лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1994 года.**

**Яшчэ адна аўтарская вечарына адбудзецца 13 сакавіка. Герой яе — Славамір Адамовіч.**

**А сваю вечарыну Мікола Аўрамчык назваў "Размова з настаўнікамі і вучнямі, з сябрамі і калегамі". Калі ласка, 17 сакавіка завітайце на сустрэчу з вядомым паэтам.**

**100-годдзе з дня нараджэння выдатнага паэта, вучонага, прапагандыста беларускай культуры на Украіне Максіма Рыльскага адзначаецца 21 сакавіка.**

**Прэм'ера дакументальнага фільма рэжысёра Вадзіма Сукманава па сцэнарыі Кастуся Цвіркі "Вечны выгнаннік. Ян Чачот" запланавана на 28 сакавіка.**

**"Трагедыі лірычны эпілог" — 75-ыя ўгодкі з дня нараджэння Аляксея Пысіна. Вечар — 31 сакавіка.**

**Усе згаданыя мерапрыемствы пачнуцца ў 18 гадзін 30 хвілін.**

**Адкрыццё тыдня дзіцячай літаратуры ў Мінску пад назвай "Як вялікасць — Кніга" пачнецца 20 сакавіка ў 14 гадзін.**

**Секцыя прозы збіраецца 22 сакавіка ў 15 гадзін.**

# УШАНУЙМА ПАМЯЦЬ ВЯЛІКАГА ДЭМАКРАТА І ГУМАНІСТА

### ДА 250-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ

Праз год, 4 лютага 1996 г. спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння сусветна вядомага палітычнага і ваеннага дзеяча, славутага суайчынніка, народнага героя ЗША, Польшчы, Беларусі, ганаровага грамадзяніна Францыі, Швейцарыі, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года Андрэя Тадэвуша Касцюшкі.

Уся сусветная супольнасць рыхтуецца шырока адзначыць гэтую знамянальную дату. У ЗША і Польшчы існуюць Фундацыі Касцюшкі і нацыянальныя камітэты, ствараюцца ўрадавыя і няўрадавыя арганізацыі па падрыхтоўцы да юбілею ў іншых краінах.

Ва ўсіх дзяржавах, дзе жыў і дзейнічаў Касцюшка (ЗША, Польшча, Францыя, Швейцарыя, Германія і інш.), яго імя ўшанавана належным чынам: шматлікімі помнікамі, бюстамі, музеямі, назвамі вуліц, устаноў і нават гарадоў. За два стагоддзі даследчыкі, гісторыкі і мастакі замежных краін выдалі некалькі тысяч кніг, альбомаў, мастацкіх палотнаў, тэатральных пастановак аб гэтым палымяным і непахісным змагары за ідэалы дэмакратыі, свабоды і шчасце народаў Амерыкі і Еўропы.

Іншая справа — у нас на Беларусі. Толькі на Брэстчыне з імем Касцюшкі і паўстаннем пад яго кіраўніцтвам звязана 5 памятных мясцін, але іх сучасны стан не адпавядае светлай памяці Касцюшкі і яго паплечнікаў.

Зараз у Брэсцкай вобласці разгортваецца работа па адраджэнні спадчыны Касцюшкі: прынята рашэнне аблвыканкама аб падрыхтоўцы да юбілею, зацверджаны аргкамітэт, праведзена міжабласная навукова-практычная канферэнцыя, адкрыта выстава, прысвечаная Касцюшку і паўстанню 1794 г. Створана абласное дабрачыннае аб'яднанне "Фонд адраджэння гісторыка-культурнай спадчыны Тадэвуша Касцюшкі", мэтай якога з'яўляюцца пошук і збор грашовых і матэрыяльных сродкаў, аб'яднанне інтэлектуальных сіл грамадства дзеля адраджэння унікальнай гістарычнай спадчыны, пакінутай нам Касцюшкам.

Відавочна, што на абласным, тым больш на аматарскім узроўні гэтыя праблемы вырашыць немагчыма. Юбілей Касцюшкі, спадчына Касцюшкі па сваіх гістарычнай і культурнай вартасцях мае сусветнае значэнне, таму патрабуецца ўвага і падтрымка ўрада РБ, шырокамаштабная праграма падрыхтоўкі да гэтай знамянальнай даты.

У сувязі з вышэйвыкладзеным прапануем наступнае:

1. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледзець і прыняць адпаведнае рашэнне аб падрыхтоўцы да 250-годдзя за дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі;

2. Уключыць у рэспубліканскую праграму падрыхтоўкі да юбілею Касцюшкі наступныя пытанні:

— абвяшчэнне 1996 года Годам Тадэвуша Касцюшкі;

— аднаўленне Дома-сядзібы Касцюшкі і палаца гр. Пуслоўскіх у Марачоўшчыне пад Косавам Івацэвіцкага раёна і стварэнне ў іх музейна-турыстычнага комплексу (Мемарыяльнага музея Тадэвуша Касцюшкі);

— будаўніцтва помніка Касцюшку ў Брэсце;

— устаноўка помніка на месцы пахавання (пад Жабінкай і Кобрынам), беларускіх воінаў-касінераў, загінуўшых у часы паўстання 1794 г. на Беларусі. Дарэчы, слава войск А. Суворава тут ушанавана вельмі добра — 5-цю помнікамі і Кобрынскім музеем;

— правядзенне Міжнароднага навуковага сімпозіума, прысвечанага юбілею Касцюшкі.

Імем Касцюшкі ганарыцца ўвесь цывілізаваны свет. Мы павінны быць удзячны лёсу, што менавіта беларуская зямля нарадзіла і выхавала вялікага дэмакрата і гуманіста.

Спадзяёмся на разуменне і падтрымку!

**Л. НЕСЦЯРЧУК,**

**старшыня Берасцейскай рады Фонду Тадэвуша Касцюшкі**

# ЗАБЫТАЯ КАЗКА

У адным гаротным паселішчы даўно-падаўна завёўся дракон. Ён прыляцеў нібыта ахоўваць народ ад злачынцаў, за гэта яму павінны былі плаціць вялікую подаць, але хутка збяднелыя людцы не мелі чым "аддзякаваць". Сталі чутны думкі: "А ці патрэбна нам такая ахова?"

Тады дракон пачаў знішчаць народ. Перш па прынцыпе — "Хто не за мяне, той — супраць!" Калі амаль нікога не засталося, стаў ён забіраць кожнага, хто патрапляў на вока.

Аднекуль тут Бог паслаў няшчасным добрага малайца. Даў яму цудадзейную зброю, а галоўнае — храбрасць!

— Не хадзі на пагібель, дзетка, яна сама за табой хутка прыйдзе. Не ты першы ваяваць асмеліўся — колькі нашых сынкоў палягло перад д'ябальскім адроддзем! — казалі яму людзі.

Не паслухаўся юнак, пайшоў у драконаву пячору.

А народ, хоць і ведаў, што дарэмна, але надта ўзрадаваўся, абнадзеіўся: "А раптам пераможа?!"

Здаецца, і сонейка ўсміхнулася на небе, па якім вякамі толькі хмары блукалі.

Прыйшоў юнак у пячору, сабраўся з сілаю, папрасіў у Бога помачы, ажно раптам чуе:

— Не забівай мяне, добры маладзец, я — не дракон... Ты думаеш, сілай я валодаю нязгаснай? Не-е-е, стары я, хворы. Сілу людзі ад страху ўбачылі. Думаеш, бессмяротны я? Што ты! Я той юнак, які забіў дракона, перад табой! Казаў і мне ён гэтыя словы, што зараз табе кажу — не паслухаў...

Не трэба сілы вялікай ды зброі цудадзейнай, каб забіць мяне. Увесь сакрэт у тым, каб не паглядзець на тое, чым авалодаеш... Як толькі ты, ПЕРАМОЖЦА, зазірнеш у скарбніцу, як адкрыюцца табе багацты незлічоныя і пазнаеш ты смак улады — у той момант ператворышся сам у ДРАКОНА.

О, вялікая мудрасць народа!

**Казку ўспомніла**

**Людміла Андзілеўка.**

# ПА ПРОСЬБЕ НАСЕЛЬНІЦТВА...

Неяк непрыкметна прайшлі на Беларусі адны вельмі цікавыя для нас, сённяшніх, угодкі: 30 гадоў таму, напрыканцы 1964 года, у склад Беларусі "па просьбе насельніцтва" ўвайшла частачка Смаленшчыны. 7 паселішчаў Мазыкінскага сельсавета Мастыршчынскага раёна Смаленскай вобласці РСФСР (Аслянка і наваколле) увайшлі ў склад Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці БССР. Гэтае волевыяўленне насельніцтва, якое стварыла падставу для рэальна адзінага за пасляваенны перыяд факта ўзбуйнення тэрыторыі Беларусі на ўсходзе, было зацверджана ў адпаведных указах Прэзідыумаў Вярхоўных Саветаў РСФСР (ад 3 кастрычніка 1964 г.) і БССР (ад 8 кастрычніка 1964 г.). Рэспубліканскія ўказы былі сінтэзаваны ва ўсесаюзным указе Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР (ад 17 лістапада 1964 г. — "Пра перадачу часткі тэрыторыі Мазыкінскага сельсавета са Смаленскай вобл. РСФСР у Магілёўскую вобласць Беларускай ССР і частковым змяненні ў сувязі з гэтым мяжы паміж РСФСР і Беларускай ССР").

Зараз цяжка сказаць, што тады больш заважыла — даўнія дзядоўскія імкненні да ўз'яднання з беларускай Бацькаўшчынай, ці тагачасныя эканамічныя меркаванні. Але бясспрэчна адно: згаданыя "забытыя" падзеі 30-гадовай даўніны з'яўляюцца квінтэсэнцыяй, сфакусаваным увасабленнем нашага гістарычнага нацыянальнага шанцу і заклікаюць нас да актыўнай працы на карысць незалежнай Айчыны. Дай Бог ім, нашым землякам, працаўнікам калгаса "Расія", што на Мсціслаўшчыне, разам з намі ўсімі пераадолець сучасныя нястачы і нягоды і жыць у дабрабыце і шчасці, што, верыцца, запануюць нарэшце ў нашай незалежнай і заможнай Рэспубліцы Беларусь. І хто ведае, можа, у будучым яшчэ многія і многія са смаленцаў, бранцаў і пскоўцаў па-добраму і па-новаму зірнуць на сваю Беларусь.

**Сафрон ЗАХАЛОДА,**

**навуковец**

# ДАРЭМНЫЯ СПАДЗЯВАННІ

*(Пачатак на стар. 3)*

Хочацца, каб нашы выбаршчыкі, людзі з нізкай палітычнай культурай, а то і ўвогуле без яе, абралі дэмакратычны парламент. І гэта ў той час, калі нават не ўсе кандыдаты маюць цвёрды палітычны погляд. Таму ўвесну будзе проста назірацца звычайная гульня ў абяцанкі-цацанкі і абгаворы. Абяруць таго ў ВС, хто болей паабяцае ці прыгожа скажа.

У выніку выбараў у нашым Вярхоўным Савеце нічога не зменіцца, не пабольшае дэпутатаў з дэмакратычнымі поглядамі, як таго мы хочам. (Дай Бог, каб іх не паменела!). Суадносіны сіл застануцца тымі ж. Эфектыўнасць яго працы застанецца той жа. А самае галоўнае — пакуль ў самім грамадстве адсутнічае ідэя ўмацавання дзяржаўнасці, нават яе захаванне, не будзе тут еднасці і ў народных абраннікаў.

Я не песіміст. І не прымаю ніякіх папрокаў наконт гэтага ў свой адрас. Я — рэаліст і не хачу слухаць ды чыніць непатрэбны хваласпеў пустым неабгрунтаваным спадзяванням. Гэта ўжо было ў нас і не трэба паўтарацца. Дзяржаўнасць нам была даравана боскай літасцю без крыві і гвалту. Дык нашто нам яшчэ наракаць і спадзявацца? Наракаць на сваё гультайства і спадзявацца яшчэ раз на яго вялікасць выпадак? А як не будзе яго?!

Чалавек заўжды шануе капейку, здабытую ў цяжкай працы, а знойдзенае — губляе.

Дык давайце менш спадзявацца, а больш працаваць. Працаваць дзеля адраджэння Бацькаўшчыны. І ў рэшце рэшт здабудзем перамогу.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

*г. Масты*

## СТУДЗЕНЬСКІ НУМАР "НАШАЙ НІВЫ"

**У шапіках з'явіўся сёлетні першы нумар "Нашай нівы". Газета адкрываецца апавяданнем Людмілы Рублеўскай "Жаніх панны Данусі". Следам друкуецца "Дзённік прыватнага чалавека", які на старонках "НН" стаў традыцыйным. "Ці прывядзе да храму дарога, выбрукаваная добрымі намерамі?" — задаўшы гэтае пытанне, спрабуе адказаць на яго ў аднайменным артыкуле Ігар Чарняўскі. У рэдакцыі "НН" адбыўся калёквіум па пытаннях мовы і незалежнасці. Фрагменты з яго друкуюцца пад загалоўкам "Цана культуры". У канцы мінулага года рэдакцыя "НН" правяла апытанне ў мінскіх кнігарнях з мэтай вызначыць самыя папулярныя кнігі. У рубрыцы "Бібліятэка" змешчаны вынікі гэтага апытання. Юрка Васілеўскі ў артыкуле "Смаленская парадыгма "Культурнага гнязда" разважае над сучаснымі расійскімі выданнямі па гісторыі і геаграфіі Смаленшчыны. Пад агульным загалоўкам "Мастацтва ненароджаных" змешчаны празаічныя рэфлексіі маладых літаратараў. Амерыканскі раман перажывае сёння свой залаты век — сцвярджае ў сваім артыкуле Томаш Мірковіч. Для тых, хто цікавіцца жаргонам мінскіх хіпі і панкаў канца 70-ых і пачатку 80-ых гадоў "НН" прапануе сваім чытачам кароткі слоўнік, складзены Адамам Глобусам. З паэтычных твораў у газеце змешчаны пераклады Івана Чароты з македонскай і сербаскахарвацкай паэзіі, а таксама вершы Віктара Шніпа. Акрамя названых матэрыялаў, у "НН" шмат іншай інфармацыі з культурнага і грамадскага жыцця нашай краіны і замежжа.**

**В. А.**

## ЯШЧЭ Ў МІНУЛЫМ ГОДЗЕ

**часопіс "Пачатковая школа" пачаў друкаваць пад рубрыкай "Спадчына" знакаміты летапіс "Аповесць мінулых гадоў" у апрацоўцы і перакладзе на беларускую мову У. Ягоўдзіка. Публікацыя багата ілюстравана, не менш важна і тое, што матэрыял арыгінальна афармляецца. У гэтым можна пераканацца і пазнаёміўшыся з першым нумарам "ПШ" за сёлетні год. Старонкі з "Аповесцю мінулых гадоў" лёгка сабраць у асобную кніжку. У нумары — і працяг рубрыкі "Сыны Беларусі". Гэтым разам з нарысам "Ламаносаў з Магілёва" выступае Э. Іофе. Ён расказвае пра жыццё і шматгранную навуковую дзейнасць нашага славутага земляка О. Шміта. Пытанні эстэтычнага выхавання закранаюцца ў артыкулах В. Кунцэвіча "Іграем у аркестры народных інструментаў", М. Цыбульскага "Каб душу акрылі прыгажосці свету..." і іншых.**

## У ЖЫЦЦЯ — МАТЫЎ НАДЗЕІ

**Такімі развагамі галоўнага рэдактара часопіса "Пралеска" А. Сачанкі адкрываецца першы ў сёлетнім годзе нумар гэтага выдання. "Пралеска" адзначае 90-годдзе з дня нараджэння А. Пальчэўскага ("Вузельчык да вузельчыка" А. Марціновіча), прапануе казкі, складзеныя навучэнцамі Магілёўскага педагагічнага каледжа ("Урокі дабрыні"), задумваецца над праблемамі эстэтычнага выхавання ў сям'і ("Маляваць, як чытаць і пісаць" Т. Слауты). У падборцы "Вясёлы вулей" — творы С. Валодзькі, С. Лавейкінай, І. Курбекі, у "Чытанцы "Пралескі" — "калядны вечар" Я. Коласа "Куцця".**

## "НЕСПАТОЛЬНАЯ ПРАГА КРЫЛА"

**Менавіта такую назву ўступнаму артыкулу да выбраных твораў Янкі Сіпакова (у выдавецтве "Мастацкая літаратура" днямі *з'явіўся першы том*) дала Любоў Ламека, падкрэсліўшы тым самым творчую неўтаймаванасць Івана Данілавіча. А наколькі ён яркі, самабытны паэт, можна пераканацца, пазнаёміўшыся з кнігай. Змест яе склалі творы, вядомыя па папярэдніх зборніках Я. Сіпакова "Сонечны дождж", "Лірычны вырай", "Дзень", "З вясны ў лета" і іншых. І, безумоўна, прадстаўлена "Веча славянскіх балад" — кніга, якая ў свой час стала з'явай у сучаснай беларускай паэзіі і значэнне якой яшчэ больш адчуваецца на адлегласці гадоў.**

# VADE MECUM

Два гады мінула з таго цяжкага, па восеньску сумнага дня, калі спынілася сэрца цудоўнага чалавека — прафесара Міхася Ткачова. Міжволі акідваеш позіркам прайшоўшыя гады і адзначаеш, якія змены адбыліся ў краіне за гэты кароткі — з пункту гледжання гісторыі — перыяд. Нягледзячы на складанасці існавання, перашкоды, адкрытае супрацьстаянне пэўных палітычных і наменклатурных сіл, у грамадстве крок за крокам расце асэнсаванне сваёй адметнасці, свайго шляху да сусветнай супольнасці, усведамленне таго, што можна назваць адным словам — б е л а р у с к а с ц ь. Гэта сведчанне перспектыў і шчаслівай будучыні нашага народа. Дзеля яе набліжэння ў адпаведныя моманты нараджаюцца *асобы, якія поўнасцю і бескарысліва* аддаюць свае талент, жыццё і душу людзям.

Такім быў Міхась Ткачоў. І сёння паходня Міхася Аляксандравіча, запаленая ад нязгаснага агню народнай душы, беларускай гісторыі, гарыць роўна і ярка. Не аднаму пакаленню беларусаў асвеціць яна шлях у жыцці. Як іскры гэтай паходні ўспрымаюцца яго думкі і кнігі.

Нядаўна ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі выйшла кніга публіцыстыкі М. Ткачова "Паходня" (рэдактар-складальнік С. Самуэль, навуковы кансультант В. Скалабан). Гэтая кніга — знак удзячнасці і павагі да яго памяці збоку паплечнікаў і супрацоўнікаў БелЭН, — сёння вельмі патрэбная і своечасовая.

Агульнавядома, што публіцыстыка — гэта галіна літаратуры, якая шляхам абмеркавання надзённых сацыяльных, эканамічных, палітычных ды культуралагічных праблем непасрэдна ўздзейнічае на грамадскую думку. Дададзім — публіцыстыка ўплывае таксама на фармаванне нацыянальнай самасвядомасці. Менавіта гэтая функцыя публіцыстыкі, неактуальная і таму другасная ў іншых краінах, на Беларусі мае прыярытэтнае значэнне, бо ўзровень нацыянальнага самавызначэння беларускага народа ў канцы XX ст. ганебна нізкі.

Чарговая кніга Міхася Ткачова (будзем спадзявацца, не апошняя, бо чакаюць свайго выдаўца багатыя навуковыя распрацоўкі па сярэднявечнай гісторыі Беларусі, якія захаваліся ў рукапісах) для адных стала цяжкім роздумам аб лёсе Бацькаўшчыны, для другіх — успамінам, балючым перажываннем. А для большасці грамадзян Беларусі гэтая кніга раскрывае вочы на многія праблемы, якія існуюць ужо даўно, *і надае новыя сілы для* змагання з грамадскай інертнасцю і абыякавасцю.

Зборнік складаецца з некалькіх лагічна *звязаных частак. Уступнае слова напісана* сябрам БСДГ Анатолем Сідарэвічам (аб ім гаворка пойдзе ніжэй). Асноўная частка — гэта публіцыстыка самога Міхася Ткачова. У раздзел "У вянок М. А. Ткачова" ўвайшлі некралогі, развітальныя прамовы блізкіх яму людзей — З. Пазняка, М. Чарняўскага, Н. Гілевіча, С. Шушкевіча, А. Пяткевіча ды інш., а таксама ўспаміны. Заканчваецца кніга спісам друкаваных прац М. Ткачова і невялічкай бібліяграфіяй аб ім. Выданне багата ілюстравана фотаздымкамі розных этапаў жыцця Міхася Аляксандравіча, жыцця, якое было і разнастайным, і цяжкім, і шчаслівым, і, на жаль, занадта кароткім.

Рэдактар-складальнік прыклала ўсе намаганні, каб вобраз М. Ткачова як навукоўца, публіцыста, палітыка, грамадзяніна прадстаў перад намі ва ўсёй сваёй маштабнасці. Сярод матэрыялаў — гутаркі з журналістамі, публічныя прамовы на мітынгах, сходах, розных пасяджэннях, аналітычныя і папулярызатарскія артыкулы па беларускай гісторыі і нацыянальнай сімволіцы, невядомыя ўрыўкі з сямейнага архіва. Матэрыялы, змешчаныя ў кнізе, храналагічна звязаны з другім мінскім перыядам жыцця і дзейнасці М. Ткачова (жнівень 1989 — кастрычнік 1992 г.). На жаль, па-за ўвагай складальнікаў застаўся вельмі цікавы і смелы на свой час артыкул "Кто мы такие (о гродненском неформальном объединении-клубе "Паходня")", надрукаваны ў "Гродненской правде" 6 студзеня 1989 года.

Вяртанне Міхася Аляксандравіча ў Мінск было выклікана некалькімі прычынамі. Галоўная з іх — распачаты ў той перыяд на Беларусі новы працэс (спадзяюся — апошні) нацыянальнага Адраджэння. М. Ткачоў, як асоба неардынарная і неабыякавая да лёсу краіны, не мог застацца ўбаку ад падзей. Гэтага яму не даравалі пэўныя асобы і палітычныя сілы, *якія стварылі вакол яго непрымальную варожую* атмасферу. Аб тым цкаванні, якое распачалося супраць Міхася Ткачова ў канцы 80-х гадоў у Гродне, ён распавядае на старонках кнігі сам. Аднак гэта быў чалавек багатай і шчодрай душы, які ўмеў дараваць сваім ворагам і нядобразычліўцам. Ніхто з ведаўшых яго не можа прыгадаць злапамяцтва з яго боку, бо Міхась Аляксандравіч верыў у людзей, жыў і дзейнічаў дзеля агульнай справы, а не ў асабістых карыслівых мэтах. Таму часцей за ўсё ў сваіх публіцыстычных выступленнях ён аптыміст. "...працягваю верыць у свой народ... Жыву надзеяй, што лепшыя рысы нацыянальнага характару яшчэ праявяцца...". /"Не зрабіць зла свайму народу", гутарка з А. Уліцёнкам, люты, 1991 г./. "Я вельмі спадзяюся на грамадзянскую мудрасць майго народа, яго традыцыйную разважлівасць..." ("Всадник с мечом над городом", гутарка з А. Шагуном, "Союз", N 43, 1990 г.) "Я веру ў цвярозы розум народа" (гутарка з М. Замскім, "ЛіМ" за 21 жніўня 1992 г.). А як надзённа для беларусаў гучаць мудрыя словы, выказаныя Міхасём Аляксандравічам на Устаноўчым з'ездзе БСДГ: "... Мы свядома становімся ў шэрагі змагання за будучыню нашага народа. Мы ідзём туды не для таго, каб шукаць сабе нейкія партфелі і крэслы; мы свядома ідзём на тое, што нас будуць ганіць, мы ведаем, што ярлыкі для нас гатовы. Але мы будзем рабіць так, як гаворыць нам біблейская мудрасць — паклаўшы рукі на плуг, не азірайся... Дык давайце ж

** Міхась Ткачоў. Паходня. Кніга публіцыстыкі. Беларуская энцыклапедыя. 1994.*

# "ПІЛЬНЕЙ НА КРУТЫХ ПАВАРОТАХ..."

## ЧАСОПІСЫ Ў СТУДЗЕНІ

Чарговы год і для рэдакцый часопісаў бы — чысты ліст паперы. Ляжыць перад табой бялюткі і такі прывабны, а што станецца з ім пасля, залежыць ужо ад "зерня", якім будзе засеяны. Праўда, улічваючы адметнасць вытворчага працэсу, а правільней мажлівасці паліграфістаў, падрыхтоўка да чарговага года ў рэдакцыях пачынаецца загадзя, за некалькі месяцаў да каляндарнага прыходу яго. Узважваюць, абмяркоўваюць, спрачаюцца... Каб надрукаваць лепшае, каб змясціць матэрыялы, што вызначаць твар выдання на ўсе дванаццаць месяцаў. Само сабою, імкнуцца паставіць на першыя старонкі творы знакамітых аўтараў.

Перагарніце студзеньскія нумары нашых часопісаў і пераканаецеся, што гэтая завядзёнка і сёлета не парушана. Імёны — годныя, творы — вартыя ўвагі. Але ж чытач не заўсёды пачынае чытаць часопіс спачатку. Перагорне старонку-другую і спыніцца нечакана на тым, за што вока "зачапілася". Прынамсі, для мяне так атрымалася з "Маладосцю". Знячэўку разгарнуў там, дзе змешчаны вершы А. Салтука. Закарцела пазнаёміцца з імі. Ведаю паэта па яго ранейшых публікацыях. Умее ён дакладна адчуць тое імгненне, што паядноўвае чалавека з яго вытокамі, ненавязліва (і ўражліва) перадае важнасць спаконвечных ісцін, шмат у яго творчасці цеплыні, спагады і ледзь прыхаванага (а часам і зусім непрыхаванага) смутку аб тым, што праходзіць і адыходзіць бясследна. Усё пацвярдзіў і першы ўжо верш "Рай" з новай нізкі. Элегічнасць матываў, элегічнасць настрою:

**Яблыкі падаюць,**
**Абдзіраюць бакі,**
**Сокам самотным сцякаюць.**
**На правадах сумуюць шпакі —**
**Вырай далёкі чакае.**

Так і напрошваецца аналогія: вырай — рай. Выкарыстоўвае яе і А. Салтук. Ужывае для таго, каб яшчэ раз падкрэсліць, наколькі на зямлі маленства, бацькоў усё прывабней, чым там, у краях далёкіх, у краінах цёплых, куды гатовы імкнуцца ў пошуках сапраўднага шчасця многія: "Рай — ён вось тут,//хоць ідуць халады,//і да берага туляцца лодкі,// І мае карацеюць гады, ды як дома салодка!".

Усё, быццам проста, ды толькі... Калі сама душа прамаўляе (а гэта ж яе голас), калі сэрцу самотна-тужліва, а яно ўсё ж нястомнае, хіба ж можна гаварыць інакш? Не проста выказваць набалелае, а "штукарыць" над творам, імкнуцца падацца модным, арыгінальным? Лішне ўсё гэта, бо і так зразумела:

**— Вырай, — сумна крычу, —**
**Пачакай, не ўзышло яшчэ жыта...**
**Аніхто мяне не пачуў,**
**Толькі вецер заплакаў нібыта.**

Лірычны герой А. Салтука, жадаючы пазбавіцца няўпэўненасці, душэўнай скрухі, меней за ўсё жадае, каб нехта яму дапамог. На сябе спадзяецца, на ўласныя сілы разлічвае. *"Не лезьце толькі самі мне ў душу!"* — гэта і просьба, але адначасова і адчай. Бо — наўкола столькі няпэўнасці, з кожным днём усё цяжэй разабрацца, што і да чаго:

**Не разумею:**
**Здрада ці дарада,**
**Дарадца хто, ці вораг, ці сябрук**
**Не разбяру, а валіцца ўсё з рук —**
**Парушаны ў душы маёй парадак.**

А ў другім вершы ўжо не душэўная ростанаснасць, а жаданне дапамагчы тым, каго апанавала гэтая няўпэўненасць. Магчыма, і дэкларацыйна, тым не менш, як ні прыслухацца: "Пільней на крутых паваротах//трымайце дапытлівы зрок,//у душах гартуйце турботу//за кожны наступны свой крок".

"Пільней на крутых паваротах..." Яны, гэтыя жыццёвыя віражы, вельмі пакручастыя. Да трагічных паваротаў трыццатых усё пільней прыглядаецца сучасная літаратура. Працягвае асвойваць гэтую тэму і В. Быкаў. У "Полымі" (і адначасова ў "Нёмане" ў перакладзе на рускую мову) змешчана яго апавяданне "Жоўты пясочак". Апошняя дарога тых, хто нечакана для сябе стаў ворагам народа. Дарога за Мінск, у той лясны масіў, які сёння вядомы ці не кожнаму — дарога ў Курапаты. У кузаве аўтамабіля апынуліся "сябры" па няшчасці. Тут і просты селянін, і крымінальнік... Поруч з іншымі вязуць на расстрэл і Сурвілу: "ён і ў цемры, з заплюшчанымі вачыма мог вызначыць іхні маршрут. *Даўно і добра ён ведаў гэтую дарогу* — ад гарадскога цэнтра да ўскраіны і далей, паўз прыгараднае вёскі да недалёкага ляска, дзе было наркамацкае стрэльбішча. Некалі сам туды вазіў такіх жа, асабліва як служыў у камендатуры. Пасля ўжо, як перавялі ў следчы аддзел, разы два выязджаў на практыкаванні па стральбе з асабістае зброі — пісталета "ТТ".

Насіў воўк — панеслі і воўка. Прысудзілі Сурвілу да расстрэлу, бо забіў арыштаванага ў час следства, а другога застрэліў. Безумоўна, вінаватым сябе Сурвіла не прызнае: "У іхнім упраўленні так працавалі ўсе — стараліся, не спалі начэй, выбівалі ўсё, што можна было выбіць з арыштаваных". І не тое што не прызнае — ён па-ранейшаму лічыць сябе зусім не такім, як гэтыя ворагі народа. Таму нават у перадсмяротны час трымаецца, наколькі гэта можна, на адлегласці ад іх. Калі прыйшла чарга станавіцца на калені, каб атрымаць кулю ад свайго ж калегі, дык просіць дазволу выкапаць асобную яму...

Вобраз Сурвілы найбольш удаўся В. Быкаву. Тут хацеў бы адразу зрабіць невялікае ўдакладненне. Гэта мая асабістая думка. У *шаноўнага Дзмітрыя Якаўлевіча Бугаёва яна* можа быць іншай. Аднаго хацелася б: не трэба шукаць у маіх сціплых развагах тое, чаго ў іх няма. У закідзе паважанаму пісьменніку не трэба бачыць ледзь не пасяганне на яго гонар і аўтарытэт усёй беларускай літаратуры. Між іншым, аўтар гэтых радкоў і за нацыянальнае Адраджэнне, і прызнае ці не ўсе паўстанні на зямлі справядлівымі, у тым ліку і Слуцкі збройны чын.

Але гэта між іншым. Дык вось: В. Быкаву найбольш удаўся вобраз Сурвілы. Драматычны, нават трагічны, пераканаўча раскрыты ў самім праламленні такога ж складанага, драматычнага і трагічнага часу. "Крышыў" Сурвіла лёсы іншых, "зламаў" і свой асабісты. Горш не прыдумаеш. Нават апошняя воля былога чэкіста не была выканана. Яго пахавалі не ў асобнай магіле: "Косцікаў ступіў на крок бліжэй і стрэліў у галаву. На траву і пясок пырснула шэрымі крупінкамі мазгоў.

— Вазьміце і туды, да астатніх, — загадаў ён байцам".

І ўсё ж у гэты момант нечакана-негадана наступае як бы прасвятленне колішняга чэкіста: "Косцікаў акінуў позіркам прагалінку між

падымем дзірван нашай няшчаснай гісторыі, узаром гэтую самую глебу, каб прарасплі на ёй залатыя зярняты нашай надзеі, нашай будучыні".

Міхась Аляксандравіч быў глыбокім і разважлівым чалавекам у жыцці, такім жа ён быў і палітыкам. На старонках кнігі "Паходня" чытач знойдзе дастаткова прыкладаў гэтаму. І сёння актуальнымі для нас застаюцца адзначаныя М. Ткачовым праблемы ў палітычным, эканамічным, сацыяльным, вайсковым і культурным жыцці Беларусі. "Партыйна-савецкая наменклатура працягвае кіраваць рэспублікай, праводзячы сваю ранейшую лінію. Лінія гэта адназначна была накіравана супраць незалежнасці рэспублікі... Наша інтэлігенцыя пакуль што спіць у шапку... Для ўсіх відавочна, што Вярхоўны Савет у цяперашнім выглядзе недзеяздольны, ён не мае ўласнай палітычнай канцэпцыі і стрымлівае рух рэспублікі да незалежнасці і свабоднай эканомікі... Адсутнасць дэмакратычных традыцый... стане спрыяльнай глебай для з'яўлення палітычнага эквілібрыста накшталт Жырыноўскага, для якога суверэнітэт рэспублікі костка ў горле...". ("Абапіраемся на інтэлект, імкнёмся да Адраджэння", гутарка з В. Жданко, "Звязда" за 24 студзеня 1992 г.). "... ідэя класавай барацьбы церпіць крах навідавоку ўсяго цывілізаванага чалавецтва. Не яна, а нацыянальная ідэя — галоўны рухавік гістарычнага працэсу ў кожнай дзяржаве" ("Прапаную: ...акрэсліць ідэю нацыянальнай школы", "Настаўніцкая газета" за 28 ліпеня 1990 г.) "Галоўнай задачай сённяшняга дня прагрэсіўных палітычных і культурных сіл Беларусі з'яўляецца ліквідацыя галоўнага рэактара нашага духоўнага Чарнобыля — русіфікацыі" ("Праблемы Адраджэння беларускай культуры", з сямейнага архіва). Няўжо гэта вечныя праблемы беларускай рэчаіснасці?

У апошнія гады жыцця Міхася Аляксандравіча чытач пазнаёміўся з ім як з пісьменнікам і папулярызатарам гістарычных ведаў. Прафесар Ткачоў разумеў, што без ведання сваёй мінуўшчыны ўзровень нацыянальнай свядомасці беларускага народа і надалей застанецца нізкім. І вось з-пад яго таленавітага пяра адзін за другім з'яўляюцца нарысы на гістарычныя тэмы, у якіх перад намі паўстаюць легендарныя Усяслаў Чарадзей, Давыд Гарадзенскі, мужныя беларускія ваяры на чале з князем Вітаўтам на Грунвальдскім полі.

Прафесар Ткачоў — гэта ў першую чаргу аб'ектыўны даследчык. Гістарычная праўда, якога б зместу яна ні была, — галоўнае ў яго творчасці. Ён як навуковец заўсёды балюча рэагаваў на розныя фальсіфікацыі, кан'юнктурныя высновы і празмерную ідэалагізацыю гісторыі нашага народа і па магчымасці спрабаваў публічна выказваць свае погляды. Сённяшнім змагарам за чырвоны бальшавіцка-сталінскі сцяг не пашкодзіла б звярнуцца да зместу яго артыкула "Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя", надрукаванага ў кастрычніку 1989 г. у газеце "Советская Беларусь". Прыкладам прынцыповай навуковай пазіцыі, жадання знайсці праўду і супрацьстаяць далёкім ад навукі інсінуацыям з'яўляецца і артыкул "Гісторыя адной "рэцэнзіі".

Асобна хочацца спыніцца на прадмове да кнігі, напісанай сябрам Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Анатолем Сідарэвічам "Вуліца Ткачова, або Цяжкая ношка сацыял-дэмакрата". На 14 старонках адзін з галоўных ідэолагаў сучаснай беларускай сацыял-дэмакратыі выкладае ці не ўласныя погляды на тактычныя і ідэйныя разыходжанні паміж БСДГ і БНФ. Згадваюцца амаль усе добравядомыя і малавядомыя шырокай публіцы факты нядоўгай гісторыі ўзаемаадносін абедзвюх партый. Амаль на кожны прыводзіцца рэакцыя М. Ткачова, якая чамусьці ці адмоўная, ці скептычная. У той жа час сам А. Сідарэвіч у прадмове адзначае, што "ў зборніку Міхась Аляксандравіч толькі намёкам гаворыць пра пэўныя разыходжанні сацыял-дэмакратаў з Фронтам". Засмучае тое, што адпаведныя погляды прыпісваюцца чалавеку, які ані падтрымаць, ані аспрэчыць іх не можа. З уступа мы больш даведваемся аб ролі ў БСДГ самога Анатоля Сідарэвіча, чым М. Ткачова; часцей сустракаем займеннік "я", у лепшым выпадку — "мы". Не ведаю, як каму, а мне асабіста не верыцца ў словы А. Сідарэвіча пра майго настаўніка прафесара Міхася Ткачова. Па-першае, гэта была куды больш значная постаць, чым яна прадстаўлена ў прадмове, а па-другое, больш трагічная, пра што многія сёння забываюць. Шкада, што аўтар прадмовы забыўся: падобныя кнігі не трыбуна для партыйнай агітацыі і высвятлення асабістых адносін паміж партыямі.

**Генадзь СЕМЯНЧУК**

*г. Гродна*

---

сасонак на схіле — мабыць, за восень заселяць і яе. І вельмі проста дзе-небудзь апынецца і ягоная яма...

У гэтым жыцці ўсё вельмі проста".

Сын свайго часу Іван Мацвеевіч Жыгуновіч — герой новай аповесці "Бумеранг" І. Шамякіна ("Маладосць"). Іван Пятровіч у каторы раз задумваецца над працэсамі, што адбываюцца ў грамадстве і якія, хоць і дэкларуюцца як ачышчальныя, асвяжальныя, на самай справе часта калечаць лёсы, робяць людзей жабракамі. Спаўна спазнаў, што і да чаго, і Жыгуновіч. Перажыў столькі, што, здавалася б, хопіць. Пацярпеў жа і ў гады сталінізму. Дык сапраўды ўжо: "у гэтым жыцці ўсё вельмі проста". Як раней, так і цяпер не пераводзяцца ахвочыя думаць і вырашаць за іншых, жыць з перакананнем, што толькі яны сваімі дзеяннямі могуць, бадай, усіх ашчасліваць.

Аповесць І. Шамякіна, як і ўсе яго творы апошняга часу, напісана з болем. З болем за тое, што так шмат вакол брыдоты, якая, прыкрываючыся дэмагагічнымі лозунгамі, робіць сваю чорную справу. Але ў аповесці не толькі боль. У аповесці і чалавечнасць, якая заўсёды была характэрнай для І. Шамякіна. І як для пісьменніка, так і для чалавека. Таму і прываблівае галоўны герой сваёй пазіцыяй, жаданнем мець уласныя погляды, не надта задумваючыся, як паставяцца да гэтага іншыя, хто вельмі ж прывык мяняць свае погляды і заўсёды ўмее трымаць нос па ветры.

"Бумеранг" — і адзін з новых твораў Я. Сіпакова, у жанравых адносінах пазначаных як прытчы і метафары ("Полымя"). Гэты, а таксама такія творы як "Ледавік і Джунгляня", "Утаймаванне ліфта", "Кат" і іншыя, пабудаваны на сплаве паўсядзённага і фантастычнага, рэальнага і таго, што знаходзіцца нават быццам у іншых вымярэннях. Прываблівае ў гэтых творах філасофская напраўленасць аўтарскай думкі, за якой схопліваюцца вельмі важныя моманты нашага жыцця. Праблемы сумленнасці, веры, абавязку — спіс можна доўжыць — закранаюцца на матэрыяле, што прываблівае навізной. Да таго ж Я. Сіпакоў удала кампануе сюжэт, чытаць яго адно задавальненне. Знаходзішся ў тым пастаянным напружанні, калі не ведаеш, як далей "павернецца" аўтарская думка. Нарэшце, дасканалае валоданне словам і псіхалагізм, за якім уменне адчуваць відочную прысутнасць... выдуманага...

У "Полымі" і "Маладосці" — новыя вершы Р. Барадуліна, у "Беларусі" — яго ўспаміны пра П. Броўку "Зямляк". Публікацыі гэтыя не толькі ў сувязі з 60-годдзем шаноўнага Рыгора Іванавіча. Па традыцыі ён выступае ў першых нумарах часопісаў. Ды і па гэтых публікацыях бачна, што юбілей юбілеем, а паэтычная планка трымаецца вельмі высока. Р. Барадуліна можна (і трэба!) цытаваць і цытаваць, але сказваецца абмежаванасць плошчы, то — абмяжуюся вершам "Паступовасць" з "палымянскай" нізкі:

**Цялят паслухмянасці**
**Ноч заганяла ў хлявы.**
**За душу самагубцы**
**Спрачаліся чэрці.**
**У салдата**
**З прастрэленай галавы**
**Выцякала думка аб смерці...**

У "Полымі" І. Чыгрынаў выступае з п'есай ("гістарычная рэканструкцыя ў дзвюх дзеях") "... Зайграй, хлопча малы", у "Беларусі" — яго ж кароткія апавяданні "Рыба, рыбакі ды яшчэ...апенькі". Адно, бадай, дастаткова сказаць: "у аўтара па сутнасці з'явілася другое творчае дыханне. Хай і надалей так плённа яму пішацца!

Каб не вяртацца да "Беларусі"... Апавяданні І. Навуменкі "Нашы каровы" і "Адвячорак на ўскраіннай вуліцы" — з шэрагу твораў, што пішуцца душой. У іх шмат той праўды, якая так патрэбна, але ў іх і шмат пачуцця — сведчанне ўмення аўтара адчуваць жанр.

Вершы В. Ракава — і лірычныя, і з тым падтэкстам, у якім прысутнічае філасофія будняў.

У. Арлоў ("Дзяржаўныя мужы Беларусі") знаёміць з Рагвалодам, тут жа малюнак А. Кашкурэвіча. Несумненна, серыя падобных публікацый знойдзе ўдзячнага чытача. Але наконт новых рубрык "Беларусі". Вось і гэтым разам прэзентацыя яшчэ адной — "Цэнтр Еўропы-95, або... Беларусь—Літва Вялікая?". Новыя рубрыкі, канечне, добра, асабліва такія. Хаця, прабачце, дарагія калегі і суседзі па калідорах. Ці не здаецца вам, што за апошні год-два вы столькі наабяцалі іх, што калі ўсе рэгулярна весці, дык неабходна аб'ём часопіса павялічыць гэтак разы ў два?

Хацелася б звярнуць увагу і на матэрыялы, што дапамагаюць нам пазбавіцца "белых плям" у нацыянальнай гісторыі. "Беларусь" знаёміць з "Пакаяннымі лістамі" Зміцера Жылуновіча, "Маладосць" — з пратаколамі допыту К. Езавітава, "Нёман" — з паказаннямі А. Луцкевіча, у "Полымі" — артыкул У. Адамушкі і І. Кузняцова "Тэхналогія гвалту".

А на завяршэнне зноў хочацца пагартаць "Полымя". Тыя старонкі, дзе слова С. Законнікава пра Р. Барадуліна "Пакуль баліць душа...", згадкі Б. Бур'яна пра Р. Кашэльнікаву, пра яе акружэнне, пра той час ("І так здзіўляцца ўжо не ўмею..."). Каб жа так пісаліся ўсе літаратуразнаўчыя, мастацтвазнаўчыя артыкулы! Глядзіш — іншае стаўленне з'явілася б у чытача да гэтага жанру. Вяртае "Полымя" з небыцця і асобныя матэрыялы пра І. Дамейку — нацыянальнага героя Чылі і аднаго з самых знакамітых беларусаў: артыкул К. Цвіркі "Вялікі асветнік"...

Зацягнулася наша знаёмства са студзеньскімі нумарамі. Час і кропку ставіць.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---



Віншуем!

# Пятру ПРЫХОДЗЬКУ — 75

Хоць з першымі вершамі Пятро Прыходзька выступіў яшчэ ў даваенны час (публікацыі ў хоцімскай раённай газеце "Калгасная праўда", 1936, рэспубліканскай "Чырвонай змене", 1937 і іншыя), як паэт сфарміраваўся пасля Перамогі. А перад гэтым была вучоба ў Магілёўскай газетнай партыйнай школе, праца адказным сакратаром Хоцімскай раённай газеты, паступленне ў Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску...

У 1940 годзе П. Прыходзьку прызвалі ў армію. У час Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях на Бранскім фронце, на Курскай дузе, у вызваленні Беларусі, Польшчы, у баях за Берлін, вызваляў Прагу.

Першы зборнік паэзіі "Голас сэрца" выдаў у 1947 годзе. На сённяшні дзень мае паэт каля сарака кніг, у тым ліку некалькі для дзяцей. Разам з П. Багаценкавым Пятро Фёдаравіч з'яўляецца аўтарам кнігі нарысаў "На новых землях" (1954), шмат перакладае.

За кнігу "Парог памяці" ў 1985 годзе ўдастоены Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова.

З днём нараджэння, дарагі Пятро Фёдаравіч. Няхай і надалей хапае Вам жыццёвай і творчай няўрымслівасці, хай добра жывецца і плённа пішацца!



Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## БАЛАДА ВОГНЕННАГА ВІРУ

З ФРАНТАВОГА БЛАКНОТА

**Якой ісці ты мог хадою,**
**Дзе змешан быў агонь з вадою?**

**Перад палескімі барамі**
**Дняпро ў агні кіпеў вірамі.**

**Загадана — любой цаною**
**Ўзяць бераг той парой начною.**

**Хоць пад чужым яшчэ ён клічам,**
**Ды мы сваім яго ўжо лічым:**

**Байцы там нашы з разведроты, —**
**Сляды пакінулі іх боты...**
**А бераг правы з жоўтым жвірам**
**Увесь размыты пенным вірам.**

**Мы ж хочам мужнасцю сваёю**
**Узяць яго малой крывёю...**

**Як зерне спелае з калосся,**
**Салдаты падаюць у восень.**

**Нібыта кліч з іх нехта кінуў:**
**"Чаму не ты, а я загінуў?"**

**А хіба ж мы ў тым вінаваты,**
**Што гінуць нашыя салдаты?**

**Мы ж на адным плылі пантоне,**
**І ўсе маглі пайсці ў прадонне.**

**Ніхто б не ведаў, дзе схавалі**
**Нас белапеністыя хвалі...**

**Але вось першы ком маленькі**
**Сваёй зямлі бяру я ў жменьку**

**І ўсёй зліваюся душою**
**З маёю роднаю зямлёю...**

**З агню, з вады, з-за перавала**
**Над шэрай стромай ранне ўстала,**

**Па сцежках, да нябёс прасцёртых,**
**Ступае полк жывых і мёртвых.**

**І моцна б'юцца ў бераг хвалі,**
**Дзе столькі хлопцаў пахавалі...**
*1943—1994 гг.*

## СНЫ СТАРОГА САЛДАТА

**Стары салдат, свае гады я**
**Аддаў паходам і баям.**
**А сны ўсё тыя ж, маладыя,**
**Якім быў некалі і сам.**

**Мне неаднойчы перад боем**
**Радзіма снілася мая.**
**Але аб тым, каб стаць героем,**
**І ў сне не марыў нават я.**

**Не пакідаў шарэнгі ротнай,**
**З ёй разам крочыў напрасткі,**
**Ў баі чаргою кулямётнай**
**Для песні выбіваў радкі.**

**Пасля атак прыгадваў маці,**
**Свой прыдняпроўскі край лясны,**
**Калі ляжаў у медсанбаце**
**І доўгія ўжо бачыў сны.**

**Ды не ўяўляў у лёце смелым**
**Апроч сваёй зямлі другой.**
**А медсястра ў халаце белым**
**Была такою дарагой.**

**Як шчыравала нада мною,**
**Каб я яшчэ крыху паспаў.**
**А сэрца клікала да бою —**
**Туды, дзе ледзь на смерць не ўпаў.**

**Не проста там іраваўся ў лета**
**Шукаць прыстанішча ў жыцці, —**
**А каб, паводле слоў паэта,**
**Ў сваю дывізію прыйсці.**
*29 жніўня 1994 г.*

## НА СТРОГІ ЛАД

УСТУП ДА НОВАЙ ПАЭМЫ

**Над родным краем шмат улад**
**Ад розных зведалі эліт мы.**
**І мо таму на строгі лад**
**Настройваюцца вершаў рытмы —**

**На той, якім нам з даўніх пор**
**Звінелі гучна струны гусляў,**
**І рэха ў даль праз сінь азёр**
**Каціліся над Беларуссю, —**

**На той, якім звіняць бары,**
**Сваю спяваюць птушкі месу,**
**Стукоча дзяцел на зары,**
**Падаючы пабудкі лесу.**

**На гэты лад уся зямля**
**Гамоніць з намі ў дні угодкаў,**
**Шляхамі зблізку і здаля**
**Даносіць скаргі нашых продкаў:**

**За тое, што ў сваім жыцці,**
**З бядою звыкшыся, з мальбою,**
**Мы ў ціхім, немым забыцці**
**Трывалі здзекі над сабою,**

**Ураду хіламу свайму**
**Стваралі ўсе для працы ўмовы**
**І дазвалялі нат яму**
**Ад роднай адрачыся мовы...**

**Нябёсаў чуем галасы,**
**Грамоў раскатных перагуды,**
**Што нашы нівы і лясы**
**Канаюць ад атруты ўсюды.**

**Мы маем шмат палацаў, хат,**
**Збіраем столькі ў полі зерня!**
**У плыні бурных рэк назад**
**Ніхто ніколі не паверне.**

**Не ловяць зорачак з нябёс**
**Ні самі людзі, ні прырода.**
**Былі і крыўды на свой лёс**
**У кожнага, напэўна, роду.**

**Але няма віны ў тым іх,**
**Што мы блукаем бездарожжам,**
**Апроч перабудоў сваіх**
**Нічога больш зрабіць не можам...**

**Пайду па роднай старане**
**Туды, куды паклічуць мары,**
**Дарогай той, што толькі мне**
**І ў змроку бачыцца з-пад хмары...**
*Лістапад 1994 г.*

# СТЫРНАВЫ



**Андрэй Упіт, народны пісьменнік Латвіі: "Некаторыя плытнікі і стругаўшчыкі былі латышы. Але большасць, асабліва плытнікі, гнала па Даўгаве ганкі з бяскрайніх лясоў Беларусі, і часта аднаго са стырнавых звалі Грышкам. Вось адкуль, як мне здаецца, паходзіў у Вектэранах каля Аўзкраўкля мой дзед Грышка".**

**Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі: "Мне Латвія асабліва дарагая і блізкая, бо мой дзед Андрэй Галвіньш, механік млыноў, траліў у Полацак з Рыгі".**

Дзед у Андрэя — Грышка.
У Грышкі дзед — Андрэй.
Няма для дружбы прышлых!
Жыццё вяло свой рэй, —
бо Грышка быў як шышка,
Андрэй за ўсіх мудрэй.
Даўгава пупавінай
адной для іх была:
натхненнем успаіла,
высока узнясла.
Ушачка і Латышка —
дзве музы любяць Грышкі
метафары-кілішкі.
Але вядзе адно
паэта з кніжкі ў кніжку
настырнае стырно:
любоў да слова роднага,
вясёлага, нязводнага:
пякучага, бо матчына;
крутога, бо з Ушаччыны.
Мы ветразем атулены
і песняю матулінай
Рыгора Барадуліна.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# РЫГОРУ БАРАДУЛІНУ, ЧАЛАВЕКУ І ПАЭТУ

**Шануем Вас, Рыгор Іванавіч! Мудрага складу і народнага таленту спрадвечнага беларуса. Паэта, дзякуючы радкам якога заўсёды прачынаецца чытацкая душа. Захавальнік смакавітага і найлагоднейшага матчынага слова. Вялікага рупліўца на цаліне беларушчыны. Выдатнага майстра ў беларускай паэзіі. Цудоўнага сябра будучых сапраўдных беларусаў — сённяшніх дзетак і падлеткаў.**

**Помнім да самых дарагіх дробязяў нашу з Вамі сустрэчу ў студзені 1988 года, а таксама Вашыя словы, пакінутыя ў "Кнізе ганаровых гасцей": "У марозныя дні абагрэўся душой у сценах Мётчанскай школы.., бо пачуў, як шчыра, як натуральна, як спаконвечна-нязводна гучыць у самых маладых вуснах кожнае слова беларускае святое мовы! Хай гучыць, пакуль зоры не абсыплюцца! Вечна! Паклон!.."**

**Віншуем Вас, Рыгор Іванавіч, з мудрым юбілеем і зычым шчаслівых гадоў жыцця і новых крывічанскіх вершаў!**

**А таксама хочам парадаваць у гэты юбілейны дзень усіх Вашых прыхільнікаў цудоўным Вашым вершам, "забытым" у нашай песнаплыннай Мётчы і пакуль што нідзе не апублікаваным:**

Ускалыханы,
узгадаваны,
табой да скону
закаханы.
У кожны гук
чароўны,
крэўны.
Мая князёўна
і царэўна,
з табой я
у свяце,
у свеце,
у хаце.
Бо ты ў мяне
адна,
як маці.
Мова
беларуская!

**НАСТАЎНІКІ І ВУЧНІ МЁТЧАНСКАЙ ШКОЛЫ**

*Барысаўскі раён*

# "ХЛЕБ ДЛЯ ДУШЫ МАЕ..."

"Пазбягайце подмасцяў, амбонаў, трыбун і п'едэсталаў. Ніколі не адрывайцеся ад зямлі; таму што, толькі стоячы на зямлі, вы зможаце мець прыблізнае ўяўленне пра тое, якая ваша сапраўдная велічыня". Гэтую думку Антоніа Мачада, вымаўленую яго ўлюбёным персанажам, яго філасофска-дыдактычным alter ego, Хуанам дэ Майрэна, нібыта ўвесь час трымае ў галаве Рыгор Барадулін. Яго літаратурнае і грамадскае існаванне вымагаюць і трыбун, і сцэн, і падарожжаў. Але ён абавязкова вяртаецца да зямлі, ды вытоку, да кораня жыцця. "Я — сын зямлі, нашчадак хлебаробаў". Прамоўленае даўно. Дае першаштуршок усім паводзінам — заўсёды. Як жыхару планеты, грамадзяніну Беларусі і Віцебскага краю, як адданаму насельніку Ушаччыны. У які куток ні закіне паэта, адтуль — на Ушаччыну, дадому, да сваіх ваколіц, да сваіх людзей, знаёмых, крэўных, надзейных. "Трэба дома бываць часцей". Дзе "ні адзін не абміне, пагутарыць і распытае". Дзе "нават страшна дыхнуць — маладыя аблокі над Ушаччынай ціха плывуць". Дзе "нечапаныя вішні ў цвеце, якім нецярпіцца зірнуць у студню". Дзе — пачыналася дарога... Шлях у жыццё. Шлях у вясёлую навуку паэзіі.

А навука тая пачалася ці не ад калыханак маці. Свядома — ад "галасоў жніўных песень". Ад жаўруковага празрыста-звоннага спеву. Ад цішыні хутара Верасовачка. Ад водару вясны. Ад колераў восені. Ад Слова любімых настаўнікаў. Ад усяго, чым поўніцца беларуская зямля. Чым поўніцца свет. Ад лусты хлеба і студні пад горачкай — да плёсаў, матылькоў, месяцовых начэй, зор, яблыневай квецені...

Рыгор Барадулін — пра гэта гаварылася, і неаднойчы, многімі — паэт імпрэсіяністычнага складу. Творца, чые эмоцыі, паэтычная логіка ідуць ад канкрэтыкі з'яў, падзей, асоб, рэчаў. У гэтым — яго адметнасць, такое перажыванне светапарадку, калі кожны рух душы, кожная з'ява абавязкова набываюць права на пералажэнне на мову паэзіі, лірычны, ці апошнім часам лірычна-філасофскі водгук на жыццё ўкладваецца ў рытмічна-сэнсавыя модусы, а быццё асобы атаясамліваецца з жыццём творчым. У паэта ёсць нязбытная цікавасць да жыцця — ва ўсіх яго праявах. Ён радуецца, сумуе, гняўліва нечым абураецца, саркастычна нешта высмейвае, пакепліваe злёгку над сім-тым, задумваецца — глыбока, аднак, здаецца, не падвяргае сумніву сэнс існавання, не тое каб узносіцца над мітуслівай рэчаіснасцю, але ўмее пабачыць і не стамляецца любіць усё, што на зямлі. Звычайны для паэзіі антрапамарфізм? Ачалавечванне безасабовага? "Безличное — очеловечить..." Так. Але і арбіта паэтычнага існавання Рыгора Барадуліна, дзе свет стыхій і паняццяў, свет прыродных з'яў і побытавых рэчаў у нейкім даўнім суладдзі, паміж імі патаемная згода, нават нейкая дамоўленасць нібыта.

Прыроду ён любіць як паэт і як "сын зямлі", заўважыць і "лісток вушацкай восені", і "васільковы спакой, смутак верасу сіні", і адчуе, як "ціша мокрым аерным вузлом прывязана да возера Пліна", але — для таго Рыгору Барадуліну не заўсёды трэба быць на самоце, ён умее адстароніцца, унутрана адасобіцца і на людзях, і тут жа падзяліцца з імі — сваёй радасцю. Радасцю, што вокамгненна высвеціцца выбухам вобразаў, кветнікам метафар. Моцартыянскі склад таленту... Памятаеце, у фільме "Амадэус" лёгкакрылага і легкадумнага свайго зяця распякае цешча, а ён даўно не чуе — уся яе роспач, увесь гвалт ужо адышліся ад яго і віруюць у галаве новай мелодыяй. Радасцю — мовілася тут — дарэчы, зусім неабавязкова тою, што праменіць усмешкамі і іскрыцца шчасцем (хаця напачатку было менавіта так: "як захлынуўся ад радасці жаўранак"), дык вось — радасцю: у сэнсе светаадчування, разумення паўнаты быцця, што месціць у сабе многае... І яснату існавання, і горыч, і соль... Тая квінтэсенцыя быцця, што злучана і з рэчавай існасцю свету, і з тым духоўным, ідэальным, чаго прагне істота чалавечая, і са складанымі матэрыямі сусвету, і з Космасам нацыянальным... І з тымі катэгорыямі, што рана ці позна нагадваюць пра сваю неаспрэчнасць і моц: прасторай і часам. На пачатку творчага шляху паэта займала больш першая катэгорыя ва ўсім сваім шматабліччы, сваёй шматкалёрнасці, бясконцасці варыяцый форм. А чым далей, чым бліжэй немінучая мяжа, калі ўжо зусім не здаецца, што "час — малады нігіліст", а — бачны далягляд, "адкуль азірацца позна", тым больш відавочная сумна дыялектычная існасць часу, які ўжо можа дазволіць сабе чорныя жарты і "заўчасна ніцеючы, усміхацца здзекліва", а святочнасць існавання выдае сваю непазбежную наканаванасць: "зорнаю пацярухаю марнасць дзён ападае..."

Барадулін увесь час у руху, у дзеянні, у імклівым творчым імпэце. Ён змяняецца і застаецца верным сабе — як віртуоз-версіфікатар, лірычны філосаф, утаймавальнік слоў, яркі метафарыст. Няўрымслівы, лётны. Нібыта жывы доказ думкі Платона: "...творы разважна-цвярозых саступяць творам палка-няўрымслівых".

Хаця тут — ведаю — шмат хто мне запярэчыць: маўляў, метафарызм зжыў сябе, гэта ўжо ўчарашні дзень, "спакойна-стрыманы выраб узрушаных вершаў...", паводле Верлена, да ўзору. У літаратуры ўвогуле, а ў нас — з вядомых гістарычных прычын — асабліва ёсць гэтае імкненне: не асвойваць новую мастацкую пляцоўку, а будаваць там, дзе папярэдне абавязкова трэба разбурыць. На гэны конт мне ўжо даводзілася пісаць. І — спадзяюся тую гаворку яшчэ весці. Выдатна — што з'яўляюцца новыя школы, што "сусветнае падабенства" размаітае ў сваім выяўленні, а сакральная праўда ўсеадзінства набывае самыя розныя абрысы. У тым, што для беларускай паэзіі цалкам новае і ў тым, што ідзе ад адштурхоўвання ад спадкаемнага, спадчыннага. І — у традыцыйным, здавалася б, вядомым, таксама. Я наўмысля не хачу пазначаць імёны — гаворка сур'ёзная і асобая. А тое, што ў беларускай літаратуры з'яўляюцца грунтоўныя і менш грунтоўныя вопыты асэнсаваць "праўду" быцця, ставячы грунтам адкрыта філасофскі, светапоглядна-каштоўнасны кшталт, адмаўляючыся ад звычаёвага, "прыкладнога" мыслення, сцвярджае зусім не марныя намаганні сённяшняга Адраджэння.

Ведучы ж размову пра Рыгора Барадуліна, пасведчу толькі, з якой шчодрай радасцю ён вітаў таленты, што з'яўляліся на літаратурных даляглядах: Уладзіміра Някляева, Сяргея Законнікава, Леаніда Галубовіча, Леаніда Дранько-Майсюка, Уладзіміра Арлова... Прозвішчы падаюцца адлаведна храналогіі з'яўлення гэтых пісьменнікаў на літаратурных даляглядах. Ды хіба толькі іх...

Кожны з іх пазней па-свойму вызначае свой творчы шлях. Бо кожны па-свойму спасцігае таямніцы законаў свету. Кожны па-свойму меціць быццё і побыт, жыццё і творчасць.

У кожнага свае, толькі яму ўласцівыя адметнасці. У Рыгора Барадуліна — гэта яшчэ і артыстызм, адчуванне гарэзіі і існавання, абаяльнасць — як статутная норма паводзін. Тое самае, пра што, перафразіраваўшы агульнавядомае, можна сказаць: "Поэт, до кончиков ногтей поэт". Як ён умее ўзрушыць залю, любое атачэнне — афіцыйнае і свойскае. Як ён гаворыць, як ён паводзіць сябе з жанчынамі! — старасвецкая гжэчнасць і сучасны кшталт. А прачытайце ягоныя надпісы на кнігах, якія ён прэзентуе сябрам і знаёмым. Дасціпныя, непадробныя, высакародныя подпісы. З іх можна скласці асобны том — будзе не горшы за іншыя. За яго эпіграмы, між іншым. А тут ён майстар — усім вядома. Прышпіліць — што матылька.

Зрок у Рыгора Барадуліна пільны, вострыя. Адразу ўхопіць нешта выразнае. "А вось тут яна ўжо не беларуска", — кіне, гледзячы на здымак паэткі-эмігранткі ў сталым узросце. Артыкуляцыя, манера паводзін, стыль жыцця — яны сапраўды паклалі свой выразны адбітак.

Рэакцыя ў паэта — вокамгненная. Часам не паспееш падумаць — а ў яго ўжо чатырохрадкоўе, што джалам пчалы выпісанае. Той самай пчалы,што некалі адзначыла сваё акмэ — "Свята пчалы". Было такое. І дваццаць год пасля таго не стамляецца ён поўніць соты, хаця за ягоныя шэсцьдзесят было-было: і вехаў, і дарог.

І сяброў. За межамі Беларусі імя Барадуліна пасля Быкава — што пароль. "Рыгор!" — і твары свецяцца нейкім успамінам. Івана Антонавіча Брыля ведаюць, так бы мовіць, датычныя да вышэйшых каштоўнасцей хараства. Алеся Разанава — эрудыты і інтэлектуалы. Рыгор Барадулін вядомы прыязна-радасна: па жывых стасунках, па чыстай магіі слова, па мелодыцы вершаў. Па сяброўскай традыцыі шасцідзесятнікаў.

Рыгор Барадулін — верны сябар. Згадаю хаця б ягонае сяброўства з Уладзімірам Караткевічам, Міхасём Стральцовым, Анатолем Анікейчыкам... Сяброўства даўжынёю ў жыццё. І даўжэйшае за іх жыццё — думкі, клопат, справы.

А сённяшнія стасункі з Васілём Быкавым... Ці адзін надарыўся "Апалонавы вечар", у якім "водар музыкі і раю" (Рамон Хіменэс)...

... Гледзячы на гэтую жанчыну, мне чамусьці згадваюцца вершы — таксама гішпанца: "І пільнуе ружы мае чараўніца, што дыяментамі сны вышывае". Чаму іспанца? Можа, таму, што іспанцаў шмат перакладаў Рыгор Барадулін, — мабыць, бурапенны тэмперамент іх і метафарызм блізкія нашаму паэту. Хаця... Перакладаў ён многа. І Гарсіа Лорку, і Габрыелу Містраль, і Сяргея Ясеніна, і Амара Хайяма... І... Па працавітасці (неаднойчы "пяро... аскароміў прозай": эсэістычнай, крытычнай, аўтабіяграфічнай) і выбуховай любові да жыцця блізкі быў яму, мабыць, Уладзімір Караткевіч. Літаратурны равеснік, сябар, чалавек вялікага таленту, дзёрзкі, яркі. Зірніце на іх абодвух — на здымку, што змешчаны ў нумары дзесятым часопіса "Маладосць" за 1994 год! Ну, хто яшчэ згодны на такое? Яны нясуць на руках жанчыну — тую самую, што нагадвае мне іспанскія радкі — нясуць, як каралеву, трыумфатарку, валадарыню пачуццяў. У яе светлы, натхнёна- вясёлы твар. Твар жанчыны, якую кахаюць і любяць. І якая ўмее быць каханай і любімай. Больш таго — мае талент быць жонкай паэта. Такімі ж прасветленымі, як пры згадцы пра Барадуліна, рабіліся аблічча тых, хто гаварыў пра яе: "Валя!" — прамаўлялася з захапленнем, пяшчотай і трохі з здзіўленнем. Яна не губляла, па сведчанні многіх-многіх, ні сваёй звычайнай ветлівасці, шляхетнасці, ні іранічнай добразычлівасці — нават калі добрая чарада вясёлых, маладых дыянісійцаў, пасля "вакхических забав", з'яўлялася апоўначы ці ледзь не на золаку на кватэру паэта — у тыя гады, калі "сум яшчэ не прасіўся ў суседзі..." І ў іншыя часы, у зусім не вясёлыя і гуллівыя хвіліны, яна была побач.

Тады, калі была жывая мама Куліна. Галоўная гераіня паэзіі Рыгора Барадуліна. І тады, калі мамы Куліны не стала.

"А мама багіняй была..."

Я не ведаю паэта — прынамсі, у беларускай паэзіі, — які б столькі і так (!) сказаў пра маці. Небыццё і няпамяць — не пра яе. Пра яе — памяць. Матчыны песні, матчына мова, матчына хата. Матчын парог... Ад яго пачынаўся адлік часу.

А Рыгор Барадулін, безумоўна, чалавек часу. І гэта сувязь не толькі з псіхалагічным часам душы (найважнейшы момант!), але і з часам гістарычным, падзейным. І гэта натуральна. Нават такі, здавалася б, спадарожнік вечнасці, як Дантэ, быў гібелінам (прыхільнікам свецкай, а не царкоўнай улады), і паэт чыстай красы Блок спазнаў усе трагедыі свайго часу, і наш Багдановіч, якому заўсёды было цесна ў межах сваёй зямной біяграфіі, залежаў так ці інакш ад рэальнага, храналагічнага часу...

Рыгор Барадулін падкрэсліваў на самым сваім пачатку пантэізм і сваю палітычную незалежнасць. Калі і ёсць, маўляў, нейкая прыстасаванасць, дык толькі такая: "у вясны палонны". Але ж — і яго "вагон таварны дрогка тузаў" на цаліне, і ён браў удзел у розных мерапрыемствах і імпрэзах афіцыйнага кшталту. І ён — стаўся адным з актыўных дзеячаў Беларускага Адраджэння. І адным з заснавальнікаў і прэзідэнтам Беларускага ПЭН-Цэнтра. І адным з адданых сяброў БНФ — хаця апошнім часам, яшчэ да выбараў прэзідэнцкіх (калі многія з нас — ішлі аддаць свой голас за Пазняка, пэўна ведаючы, што ён прайграе), дык яшчэ да выбараў былі ўжо відавочныя (мабыць, і Рыгору Барадуліну) пралікі руху як сілы, што мае прыцэл на тое, каб весці палітычны рэй: няўменне расставіць акцэнты, каб мэты партыі былі зразумелыя тым, ад чыіх галасоў залежыць палітычнае лідэрства; чыста культуровы ўхіл, залішняя філалагізацыя: ну, што там сярэднестатыстычнаму грамадзяніну да таго, праз мяккі знак пішацца "свіння" ці не — паляндвіцы з той папяровай свінні не зробіш.

Але Рыгор Барадулін — <u>сябра</u> БНФ.

Але паэту, чалавеку Рыгору Барадуліну блізкія і высакародныя ідэалы, і гарачы імпэт, і культуровы, філалагічны ўхіл. Чалавеку, для якога літаратура — жыццё, а мова — што "імя ўласнае" , слова і пачатак, і канец... "... Адно магчыма — са словам ціха сустрэцца вачыма, чакаць, што на ростань скажа яно".

Зямля. Радзіма. Слова.

Святое. Сваё. Заўсёднае. Як спрадвечны закон жыцця. Дзе няма больш патрэбнага, больш старажытнага занятку, як земляроб. Нездарма сын зямлі Рыгор Барадулін і шлях свой меціць як аратай, што зямны круг атаясамлівае з земляробчым, адвечным цыклам. "На таку свайго веку". І нездарма, падбіваючы папярэднія рахункі жыццёвыя, пазначае: "Самым чыстым зернем, самым адборным засталіся маміны словы. З іх хлеб для душы мае..."

Што тут дадаць?

**Ала СЯМЁНАВА**

# ВЫСОКАЕ ДОЛІ ЗВАНОК

### КЛЁК

У зерні веташковы запавет,
На марнату не зводзьце, сцеражыце,
Трывалы клёк, каб паўтарыўся ў жыцце
Раскрыўся смяглай цягласці сакрэт.
Упартасць руні, коласа імпэт,
Прасеіцца на скупаватым сіце,
Напомніўшы аб голадзе і сыці,
Адпахне пальіном капытны след.

Душа застацца мусіць маладою,
Каб думаць разам з каменем, з вадою
Паганскую, зялёную думу.
І адслужыўшы ясную вячэрню,
Агонь падкажа макаваму зерню,
Калі займацца полымем яму.

### ЗДАРАЛАСЯ

А здаралася ў Беларусі —
Малацілі сноп на абусе,
Блін пяклі на лязе сякеры,
Праснакі ў рыдля на далані.
Толькі не выракаліся веры
Ды крывіцкай сваёй радні.
Косамі да цвярдых мазалёў
І мурог, і сівец касілі,
І няпрошаных маскалёў,
Бо чужой не кленчылі сіле.

Мядзведзь пацехі прэч
Нясе калоду мёду.
Як збродлівых цялят,
Дарогі час пасе.
Ну а дарогам што —
Каб толькі ўбіцца ў шкоду!

### АПОШНІ

Застаецца вучыцца ў звяроў,
У халоднай рыбы
Ды ў птушак,
Як любіць глыбіню віроў,
Як люляць цішыню бароў,
Вышыню шанаваць у душах.

Ад саміх сябе праз вякі
Мы ўцякалі з такім напорам —
Аж дзічыліся нас ваўкі,
Аж ад нас
Першабытны такі
Адцураўся апошні сорам.

•

А месца святое
Не будзе пустое
І хочуць яго не святыя
Сабе захапіць,
Маланак крохкія галіны —
На іх ручнік дарог не вешай.
І цемры цупкія цагліны
Чакаюць,
Каб зрабіцца вежай.

І пачынаеш верыць Рыльке,
Што зноў прырода без узросту.
Плывуць планеты, як арыйкі,
І сніцца шыбельня памосту...

### ДАЛОНЬ

Сярэдневеччу пакладзеная на скронь
Камянее ў ласкавым прымусе
Вільня —
Крылатая думкай далонь
Стольнай,
Дойліднай Беларусі.

### ЗАВОЗНІК

Завознік на млыне,
А млын завецца часам,
Стаю ў даўгім завозе.
Млыну не да мяне.
Пасуся самапасам,
Паверыўшы дарозе.

Рыгор БАРАДУЛІН

Жарсць любіла каса літоўка,
Што крамяная семнастоўка.

І панеў сабе ў Беларусі
Хлеб гасцям
На бялёвым абрусе.

### АД ЖУРАЎЛЯ ДА СІНІЦЫ

Жывём,
Правёўшы жураўля,
Рудым, а потым шэрым сумам,
Пацішу белая зямля
І чорнага падкіне думам.
А там
Чакаць павінны мы,
Калі мароз пачне вініцца,
Калі шкарлупіну зімы
Прадзюбне сонная сініца...

### АДЛЮДНЫ

Калі б я паўтарыўся ў тых,
З якімі
Было мне добра
(А мажліва й ім),
Дык быў бы я
Адлюдны не зусім,
Адценены лістамі маладымі.

А пасівелі ўсе, а пастарэлі,
І знемаглося што магчы
Магло.
І ўсё няпэўнае пайшло на тло.

Сябе й на сцэнцы
Стрэльба чуе ў стрэле...

•

Леты, якія зніклі ў быллі,
Тыя дзяўчаты,
Што ў летах былі,
І засталіся адны маладыя.
Мы, пасівелыя што палыны,
Цешым свой подзіў
І сподзеў ляны,
Што яшчэ дошкі
Задужа сырыя
Тыя,
Што прах наш
Прытуляць зямны,
І не пад намі маснічына ные,
Ледзь уцякаць нам
Захочацца ў сны.

•

Ад нас перахаваць дарогу
Любіць Бог
То снегам, то лісцем зрудзелым,
То травою.
Каб кожны пратаптаць наноў
Дарогу мог
Альбо ўзгадаць сваю,
Як даўнюю трывогу.

Урэшце ў небыццё
Вядуць дарогі ўсе.
Як і цёплае тое,
Якое ніколі не стыне.
І вострая зайздрасць
Таксама тупая.
На месца святое
Ахвочых хапае.

### ПАЭТАВА СЯСТРА

Размяняла восьмы дзесятак
І пасвіць сама
Сваіх летаў статак.
Не ўвечарэла ў вачах
Туга па вясне.
Зрэдчас усмешка
Ранэткай падае.
Гляджу на цень гаваркі,
І мне
Бачыцца тонкарысая,
Маладая, кірпатая.
І толькі старасцю кожны дужы.
Яны не старэюць,
І цені, й душы...

### ПАЎТАРЭННЕ

Паўторыцца атожылкамі пень,
Ад дрэва цень
Дзень прынясе ў прыполе.
Дубцамі зробіцца
Густое голле.
Змяецца ціхі венік на галень.

Гай скіне
Свой стаптаны пашлапень.
Задумаецца цішыня нямая,
Ці гэта пень атожылкі трымае,
А ці атожылкі трымаюць пень.

### НЕ СПЯШАЕ

Час не спяшае ўвасобіцца ў рэчах,
Гуках і рухах істотаў,
Юных паглядах,
Змярканнях старэчых,
У пераспеласці сотаў.

Кожнае Я —
Гэта час затрыманы,
Зніклівы а непаўторны.
Словы халодныя,
Быццам нарманы,
Шлях прызнаюць непраторны.

Сонны сучок
Паддаецца стамесцы.
Крышыцца глыбасць на порах.
Наймічкай часу
Рака застаецца
У безбераговых прасторах.

### БЕЗ УЗРОСТУ

Ноч агаляе ўсе заганы,
Што дзень хаваў далей ад вока.
Маўчыць спакой,
Як воз загнаны.
Смяецца зорнае барока.
Ляжаць мае мяхі,
Дзе чэзнуць дзён зярняты
З далоні пана Бога.
Млынар амаль глухі
Ад гулу ў будні й святы
Бярэ з мяха любога.

І засыпае ў кош
Бурштын зямлі шурпаты.
Скрыгочуць камяні.
І памінальны коўш
Не ад апошняй раты
Хмялее ў цішыні...

### БАЦЬКІ ДЫ ДЗЕЦІ

Даўнейшы ён за шлях
З вараг у грэкі,
Шлях ад заможнасці
Да торбы ды кійка.
Бацькі — лясы,
А дзеці — дрывасекі:
Ссякуць пад корань,
Абцярэбяць да сучка.

### ЗЯБНУЧЫ

Клянуся інеем зімы,
Што нас аднойчы заручыла,
Клянуся іменем турмы,
Што нас у сцены залучыла.

У сцены з цемры ды святла,
Дзе кленчыў згодзе
Гнеў высокі.
Датуль,
Пакуль турма была,
Мы і не марылі пра ўцёкі.

Клянуся інеем зімы,
Сваім адчаем прысягаю,
Што мне, як вязню, без турмы
Не быць.
Няволя дарагая.

### ШТО

Што вячней,
Ці неба, ці зямля,
Не адкажа дзень
Ні цень чмяля.
Думай, покуль можна,
Бо а пасля
Зможа ўсіх
Сцюдзёная зямля.

•

Вадой замерзлай затоплены човен,
Як след ад нагі босай велікалюда.
Чарот парудзеў ад зімовых абновін.
Трашчаць берагі ад лядовага склюда.

Вада падмывае крысо небакраю.
Варона крыло апускае абныла.
Збялелы бярэзнік салодка згарае.
І Нарачы чару смуга надгубіла.

### РУДЗІЗНА

Каняўё парудзела,
Асцяўё парадзела.
Дождж мяце барадою
Радабоцце рудое.
Ціха восень рудая
Рабацiннем рыдае.

### НАЛЕЖЫЦЬ

Абмяняюцца гарбамі,
Як скарбамі,
Прамяняюць на місу
Месу балючую.
Будучыня належыць варварам,
Бо варвары — неўміручыя!

### ЧАРА

Тыя, як тая чара
Кругавая,
Што з прадоння хмельнага ўсплывае.
Усплывае,
Каб цягнуць на дно
Зноў маю развагу й раўнавагу.
Цёмнае ўстаялася віно,
Ашукаўшы маладую смагу.

### ПАВІННА

Мілосць павінна то маніцца,
То патухаць, то разгарацца.
Калі знікае таямніца,
Дык застаецца
Толькі праца.

### САМОТНЫ

Ці човен Харону,
Як посьнік, смалі,
Ці сыць пякельны агонь,
Як скаромнік.
Чалавек і ў космасе,
І на зямлі
Самотны а безабаронны,
Як помнік.

### ПАМОЧНІКІ

Як памочнікі смерці ў горадзе
З косамі йдуць дзецюкі
Аб'атавіць лужкі й газоны.
Вецер лісце цюкуе
У цяжкія цюкі,
Халады нішчаць колер зялёны.

Смерць смялее,
Касу на плячы несучы,
На траву ці на снег не зважае.
Страшна на касачы
Накалоцца ўначы
Восені,
Бо гаспода чужая...

### ХВАЛЯ

Хваліць і хваляваць —
У гэтых словах хваля
Падкоціцца, як ласачка ў пярыну,
Напханую няскубленым аблочам.
І радасць возьмецца,
Як пралля й ткалля,
За невясёлы клопат без упыну,
Аж усміхнецца лёс —
Пануры вотчым.
А хваля —
Непрылашчаная коціца,
Каб хваляваць,
Да іншага пакоціцца...

### АПОШНІ ЗВАНОК

У небе пачуў я званок —
Высокая доля званіла.
Мана падавала збанок,
Віна давівала вянок,
Труна дагнівала абныла.

У лузе вятрэлі званкі,
Хітрэлі званкі пад дугою.
Журбе прысягалі крукі.
Сябе даганялі вякі,
Гарбелі вярстою даўгою.

Аднойчы глухой гамане
Прысніцца захоча капліччка,
Званіца званкі памяне,
І ўчую, як звоніць па мне
Апошні званок — Даміньчка.

•

Не скажуць ні вятры
Што шчыміць сэрца больш,
Ці верад, ці туга,
Што мае болей плёну.
Дачка — мой боль стары,
Унучка — свежы боль,
І мама — боль да скону.

ЛіМ
ЧАСАПІС



Музыка

# ГОЛАС АРГАНА ГУЧНЕЕ

Камерная зала на Залатой Горцы была ў той вечар перапоўненая. Упершыню за ўсю шасцідзесяцігадовую гісторыю Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі сіламі навучэнцаў быў дадзены цудоўны канцэрт арганнай музыкі. Ён надоўга запомніцца і выканаўцам, і слухачам.

Нягледзячы на тое, што арганны клас у ліцэі фармальна з'яўляецца факультатывам, яго прафесійны ўзровень даволі высокі. Выкладчыца Наталля Выграненка, якая фактычна стварыла клас аргана, фанатычна аддадзена любімай справе. Яна — выхаванка Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, прадаўжальніца слаўных традыцый І. Браудэ (займалася па аргане ў класе Н. І. Аксекцян, бліжэйшай вучаніцы Браудэ). Намаганнямі Наталлі Іванаўны арган у ліцэі ўкараніўся, зрабіўся яго неад'емнай часткай, хаця пачыналася ўсё далёка не проста, адсутнічаў нават інструмент.

Праграма канцэрта была даволі насычаная і ўключала ў сябе творы выдатных майстроў заходнееўрапейскага барока. Так, у 1-м аддзяленні ў выкананні навучэнца 11 класа Расціслава Рысава прагучалі Таката ў 5-м тоне Клаўдзіа Мерула, буйнейшага прадстаўніка венецыянскай арганнай школы, і тры часткі рэ мінорнай Сюіты французскага арганнага кампазітара XVIII ст. Луі Нікала Клерамбо. Расціслаў Рысаў — таленавіты музыкант, ён свабодна валодае тэхнічнымі прыёмамі, арганнымі штрыхамі, рэгістроўкай, нюансіроўкай, іграе захоплена, добра адчувае стыль музыкі, якую выконвае.

У выкананні вучаніцы 10 класа Ніны Краслаўскай досыць тонка і выразна прагучалі дзевяць фугет Даменіка Цыполі, італьянскага кампазітара пачатку XVII ст.

Адметнае месца ў праграме канцэрта занялі ансамблі. Слухачы ўпадабалі Пяць духоўных песень (на аснове пратэстанцкіх харалаў) Іагана Себасцьяна Баха, выкананых студэнтам Акадэміі музыкі Аляксеем Бурдзялёвым і навучэнкай 9 класа Наталляй Сердзюковай.

Выдатнае ансамблевае спалучэнне флейты (вучаніца 11 класа Любоў Бенедзіктовіч) і аргана (вучаніца 10 класа Эла Зубраўская) было паказана ў Санаце мі мінор для флейты і Кантыніё і Адажыю з арганнай такаты І. С. Баха.

У 2-м аддзяленні ў выкананні Р. Рысава прагучалі творы нямецкіх майстроў. Годна закончылі канцэрт творы І. С. Баха — Варыяцыі на харал "Хто хваліць любімага Бога" з Арганнай кніжачкі і Прэлюдыя і фуга фа мінор.



Хочацца пажадаць Наталлі Іванаўне Выграненцы і яе выхаванцам далейшых творчых поспехаў, квітнення — арганнаму класу ліцэя.

**Леанід НЕМЗЕР**

*На здымку: арганны клас Наталлі Выграненкі.*

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

# РЫХТУЕЦЦА ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ...

**Нядаўна ў Мінску адбылося пасяджэнне аргкамітэта новай імпрэзы. У яе арганізацыі бяруць удзел Скарынаўскі цэнтр, пасольства Дзяржавы Ізраіль на Беларусі, Міністэрства культуры, вакальная студыя Гасцёўні імя В. Дуніна-Марцінкевіча, студэнты Беларускай акадэміі музыкі, навучэнцы Мінскага музычнага вучылішча ды 150-й сталічнай школы. Прызначана ўжо і дата імпрэзы: 17 мая. Так, менавіта у гэты дзень у Мінску распачнецца Міжнародны фестываль старажытнай яўрэйскай музыкі, прысвечаны 250-годдзю рэбэ Шнеерсона, заснавальніка хасідскага руху. Як вядома, карані гэтага рэлігійнага руху належаць беларускай зямлі, адкуль ідэі Шнеерсона распаўсюдзіліся з часам па ўсім свеце. Вядома таксама, што да 1917 года ў Мінскай харальнай сінагозе праходзілі міжнародныя кантарскія фестывалі. А гэта значыць, сёлетнюю імпрэзу можна трактаваць і як аднаўленне колішняй традыцыі, што існавала ў шматаблічнай культуры беларускай зямлі. Як паведаміў загадчык Гасцёўні імя В. Дуніна-Марцінкевіча сп. А. Наліваеў, на свяце чакаецца шмат гасцей з многіх краін свету, бо 250-годдзе Шнеерсона — вялікая дата для ўсіх хасідаў, якіх толькі ў Еўропе налічваецца 3 млн., ды 6 млн. — у ЗША. Сам жа фестываль мяркуецца зрабіць традыцыйным. Нездарма ж каралева Англіі некалі ладзіла пры сваім двары спаборніцтвы сусветна вядомых кантараў: кантарскія спевы й сапраўды высокае старажытнае мастацтва...**

**Фінансуюць правядзенне свята міжнародныя яўрэйскія арганізацыі ды пасольства Ізраіля на Беларусі.**

**Н. К.**

# "ЧАКАЕМ-С"... ЧАКАСІНА?

**Нядаўна ў Канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылося выступленне Уладзіміра Чакасіна. Звычайна гэтае імя суправаджаецца тытулам "зорка джаза еўрапейскага ўзроўню". Калісьці Чакасін завітваў з роднай Вільні ў Мінск разы два на год, уражваючы публіку адмысловымі праграмамі з элементамі тэатралізацыі з дадаткам эксцэнтрыкі. Змяніўся час, дарога з Вільні ў Мінск цяпер больш дарагая і складаная, чым на Захад, дзе цяпер пераважна і практыкуе Чакасін, і калі б не дапамаглі спонсары, дык і гэты сёлетні прыезд быў бы немагчымы.**

**Змянілася й тое, што маэстра прапануе мінчукам. Імкненне да буйных форм, уласцівае Чакасіну, прывяло яго да музычнага тэатра — менавіта з гэтым ён да нас і прыехаў. Ён прапанаваў публіцы два асобныя спектаклі: адзін паводле аповесці Ф. Кафкі "Ператварэнне", другі — заснаваны на вершах Д. А. Прыгава. Шоу, калі можна так сказаць, складалася з музычных нумароў у чаргаванні з дэкламацыяй акцёрамі ўрыўкаў з названых твораў у суправаджэнні пантамімы ў стылі "рабі раз!.." А каб не заганяць гледача ў нудоту гэтай "плынню свядомасці", раз-пораз Чакасін выходзіў са сваімі сола, як звычайна, аргастычна-напружана-нарастаюча-раптоўна-абарванымі. І нават парадаваў публіку каронным сваім нумарам — дзьменнем адразу ў два саксафоны. Гэткая сумесь незвычайнага і да болю знаёмага. Нават і джаз быў: праўда, намёкамі — але й за тое дзякуй.**

**Уражанні публікі былі розныя — ад захаплення ды збянтэжанасці да сарказму і... (Не, лаянкі не было — білеты ж былі да смешнага танныя, у буфеце, пэўна, публіка пакінула грошай куды больш, чым у касе). Дык вось, да сарказму і — да глыбакадумных сентэнцый накшталт: "Яшчэ не тэатр, але ўжо не музыка". А вось кажуць, што напярэдадні філарманічнага канцэрта Чакасін меў сустрэчу у мінскім клубе "Стыль" і граў музыку. Джазавую. І на Захадзе гэтак жа яе самую грае. Нават з тымі ж сваімі заўсёднымі паплечнікамі — Г. Лаўрынявічусам ды А. Малакаедавым. Можа, дух акадэмічнай сцэны філармоніі проста вымагае ад майстра творчага эксперыменту? Хаця б — над публікай. (Над простай, бо валютная — як наша, так і заходняя, наўрад ці гэта дазволіць).**

**Зрэшты, усялякі пошук павінен прывесці да пэўнага выніку. Калі мець на ўвазе, што пошук працягваецца, дык трэба пачакаць наступнага разу: чым пачастуе маэстра мінскую публіку? Магчыма, гэта будзе нешта грандыёзнае. Мо нават вартае ўвагі. Пачакаем-с. Памятаеце, як той спяваў: "Ну, а может он теперь боксом занимается. Если будет выступать — я пойду смотреть!"**

**С. ШЛЁНСКІ**

# ЯГО ЗРУЧНЕЙ ГЛЯДЗЕЦЬ ЗВЕРХУ...

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА НАШУМЕЛЫ СПЕКТАКЛЬ

Прэм'ерны вэрхал, які суправаджаў пастаноўку спектакля "Дон Жуан вяртаецца з вайны" Одана фон Хорвата французскім рэжысёрам Стэфані Лаік, пакрысе аціхае. Выканаўцы (што, дарэчы, былі набраныя з розных мінскіх тэатраў), адчуваючы гэта, сталі больш раскутымі на пляцоўцы. Шкада, але гэта не ідзе на карысць спектаклю, дзе рэжысёрская метода працы з акцёрамі цалкам выключае імправізацыю.

Эстэтыка спектакля "Дон Жуан вяртаецца з вайны" нязвыклая для беларускай прафесійнай сцэны. Няма ў гульні акцёраў паўтаноў, няма адказнасці, няма звычайнай пластыкі, адценняў у тэмбрах галасоў. А першае, што адразу кідаецца ў вочы, — у спектаклі адсутнічае роля, якая б вылучалася з шэрагу іншых. Галоўнае — калектыў, агульны рытм, агульнае дыханне, адчуванне адзін аднаго. Стэфані Лаік стварыла тэатральную пастаноўку, дзе няма "сістэмы зоркі". Досведы такога роду ўжо сустракаліся на айчынных студыйных падмостках. У 70-80 гады...

Ролю Дон Жуана выконваюць восем чалавек. Ход не новы, але сэнсава неабходны. У гэтым спектаклі разглядаецца як бы не лёс аднаго героя, умоўнага Дон Жуана, а лёс свету донжуанства, які змяняецца і памірае. У спектаклі аналізуецца тыпалогія дачыненняў між мужчынамі і жанчынамі.

Дон Жуан тут шматаблічны і шматгалосы персанаж. У кожным эпізодзе ён з'яўляецца ў новай іпастасі. Перад намі галерэя чалавечых характараў, у якіх нейкае адно пачуццё дамінуе над усімі астатнімі праявамі асобы. Дон Жуан пяшчотны, Дон Жуан жорсткі, Дон Жуан шчыры, Дон Жуан цынічны, Дон Жуан высакародны і Дон Жуан-самец. І так ад карціны да карціны, ад жанчыны да жанчыны.

Вось першы выхад Дон Жуана. На сцэне, павольна рухаючыся, адзін за адным з'яўляюцца мужчыны. Чуецца шум хваляў, прыбой. Крокі вылічаныя, след у след. Позіркі — у адну кропку. Рукі вісяць уздоўж цела. Торсы нахілены ўперад. І ў цішыні, як рэха: " Я шукаю вас... я шукаю вас..." І так восем разоў на розныя галасы, але з адной інтанацыяй стомленасці. Гэта — як заяўка аб мэце Дон Жуана. Ён прыйшоў з пекла вайны, каб знайсці сваё былое каханне, свой згублены ідэал, сваё мінулае. Позняе раскаянне не дае яму спакою. Дон Жуан піша лісты. Кожны ліст — гэта споведзь грэшніка, прызнанне сваёй віны. Кожны ліст вымагае адказу, але бездань, якая аддзяляе жывых ад мёртвых, не дазваляе Дон Жуану атрымаць надзею на адпушчэнне грахоў: нявеста, якую ён спакусіў і кінуў, "пайшоўшы кахацца з сотнямі шлюх", звар'яцела і памерла ад гора. Але гэтую бязлітасную ісціну Дон Жуан спазнае толькі ў канцы свайго шляху, у канцы спектакля. Замест выратавання яго чакае пакаранне. Замест каханай — старая (С.Станюта), якая ўвесь час нерухома сядзіць у крэсле, асветленая цьмяна-жоўтым святлом. Яна чакае, каб адпомсціць Дон Жуану і за смерць сваёй унучкі, і за пакуты ўсіх жанчын. Мы назіраем за кожным крокам асуджанага на смерць.

Атмасфера, створаная ў спектаклі, моцна ціснe на пачуцці гледача. Гэта ідзе ад кантраснасці колеру, ад дакладнасці ліній. Вастрыня ва ўсім — у рухах, у крыках, у міміцы, у тэкстах, у шумавых эфектах. Гэта — спектакль-графіка. Яго вызначае геаметрычная пабудова мізансцэн, жорсткая пластыка, дынамічныя перагрупоўкі і дакладны тэмп. Гэта спектакль-механізм, дзе ўсе дэталі — святло, гук, акцёры — дзейнічаюць бездакорна. Гэта калектыўная гульня ў вяртанне да ідэалу. Гульня жорсткая.

У акцёраў у асноўным два тыпы мімікі — абыякавасць і пакуты. Напружанасць ва ўсім — у постацях, у паваротах галоў, у выразах твараў, у рухах, у словах. Адусюль — чаканне болю, болю, болю... Выцягнутыя постаці, нібыта праз увесь пазванок праходзіць металічны стрыжань. Гэта адчуванне металічнага каркасу, які ахоплівае акцёраў, ствараецца з-за іх схематычнай і вуглаватай пластыкі. "Вайна скончылася... і мы прайгралі вайну" — гэтымі словамі пачынаецца спектакль. Гэта значыць, што жыцці страчаны дарма, пражытыя пакуты дарма. Адчуванне безнадзейнасці і пустэчы нарастае нібы гул у вушах. Металічны каркас ахоплівае людзей усё шчыльней. Чалавек шукае выратавання, а знаходзіць смерць.

Пекла вайны змяніла Дон Жуана і зрабіла жорсткімі жанчын. Вакол жалоба. Жанчыны аплакваюць сваіх забітых мужоў і бацькоў, сваіх ідэальных мужчын, і помсцяць таму, хто калісьці зрабіў ці мог зрабіць ім балюча — Дон Жуану. ("Я сам эксплуатуемы. Вы, жанчыны, эксплуатуеце мяне", — сведчыць ён). Жанчыны, стомленыя за вайну без мужчынскай ласкі, бяруць ад Дон Жуана фізічнае каханне. Ён задавальняе ўсіх, але не дае ім нічога, бо жанчыны — зацята-свядомая пралетарка (А. Іваннікава), лесбіянка-мастачка (Г. Фёдарава) і іншыя толькі нагадваюць яму Чыстую Нявесту, а ён можа належаць — толькі ей адной. Ён нясе сябе ёй.

Увесь шлях Дон Жуана з пекла ўяўляе сабой чаргаванне невялічкіх карцін-сустрэч. Мы глядзім нібыта чорна-белыя фотаздымкі. Але твары і сілуэты на іх успрымаюцца вастрэй, чым на каляровай паперы. Фотаздымкі зачароўваюць сваёй выстраенасцю.

Жанчыны ў чорным, ідучы па дыяганалі, выносяць чорныя крэслы. Яны становяцца насупраць мужчын і пачынаюцца пластычныя варыяцыі на тэму кахання і выбару аб'екта кахання. Крок мужчын уперад. Адступленне жанчын. Абарона — занесеная для ўдару рука. Мужчыны перахватваюць руку. Зноў адступленне. Два лагеры аддзелены даволі вялікім прамежкам. Напружанне. Позіркі злітыя. Ад жаночых постацей аддзяляецца танклявая і маленькая . Крок да мужчыны. Супынак. Скачок. Жаночыя ногі абшчапілі торс мужчыны. Постаці застылі, зрасліся. Жаночая фігурка робіць амаль акрабатычнае сальта. Зноў яе аддзяляе ад мужчыны наэлектрызаваная бездань...

Кожная мізансцэна пастаноўкі вызначана сваёй харэаграфічнай формай. Гэта спектакль-танец. І лепшая танцорка ў ім — мініяцюрная актрыса лялечнага тэатра Алена Конска. Гэта яна — пятнаццацігадовая Маргарыта, якой вайна перашкодзіла пайсці вучыцца ў школу танцаў. Гэта яна перараджаецца ў жанчыну, прагне блізкасці Дон Жуана. Яна, распластаная на чорнай падлозе, крычыць, што не хоча памерці. Яна праходзіць праз залу, асветленая халодна-шэрым святлом, і моцна-надрыўна, як прысуд, чаканіць хлуслівыя абвінчванні Дон Жуану. Актрыса вылучаецца з калектыву выканаўцаў экспрэсіўнасцю ігры. І калі гаварыць аб існаванні акцёраў у нязвыклай ім сістэме, то менавіта Алена Конска найбольш адчула і зразумела яе.

Стэфані Лаік пакінула на беларускіх падмостках свой твор. Пакінула, асудзіўшы на сапраўднае выпрабаванне: на жыццяздольнасць. Чужародная для акадэмічнай сцэны эстэтыка спектакля вымагае прыдатных умоў для існавання. Бясспрэчна, "Дон Жуан..." лепей бы ўспрымаўся ў нейкім эксперыментальным тэатры, кшталту Альтэрнатыўнага ці Маладзёжнага. Падтрыманне ансамблевасці, асноўнай каштоўнасці спектакля, мне здаецца галоўнай умовай для прымальнага існавання пастаноўкі. Гэтаму спектаклю раз-пораз проста неабходна вока збоку (або зверху) — вока рэжысёра ці каго-небудзь з пастановачнай групы, каб "Дон Жуан..." не губляў выдатную гульневую форму, якая так вылучала на яго прэм'еры.

**Наталля НІКАЛАЙЧЫК,**
**студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў**





# “ПРАШУ ВАС, МАЭСТРА!”



Гэтымі магічнымі словамі, якія ўжо самі па сабе як быццам гучаць музыкай, запрашалі афішы ўсіх прыхільнікаў тэатра музкамедыі на бенефіс вядучага саліста Арнольда Ранцанца. Гэтыя словы гучалі лейтматывам і самога бенефіса. Артыст запрашаў усіх — і музыкантаў, і калег-акцёраў, і гледачоў падзяліць з ім радасць творчасці.

Як сказаў мастацкі кіраўнік і дырэктар тэатра Сяргей Косцін, усе акцёры хочуць, каб у іх адбыўся бенефіс, але не ўсе гэтага дабіваюцца. Так, у наш складаны час тэатры не маюць сродкаў, каб належным чынам ушанаваць сваіх вядучых акцёраў, і тады найбольш энергічныя з іх самі знаходзяць для гэтага ўсё неабходнае. Так адбылося і з Арнольдам Ранцанцам, у гонар 50-годдзя якога было задумана падрыхтаваць тэатральнае свята. Не гаворачы пакуль пра творчы бок справы, неабходна адзначыць, што толькі дзякуючы асабістай энергіі бенефіцыянта ўдалося знайсці спонсараў з ліку вядучых камерцыйных банкаў і фірм, якія і пералічылі неабходную суму на правядзенне імпрэзы. Шкада, канечне, што артысту давялося шмат сіл і энергіі ўкласці ў арганізацыйны бок справы, але затое ў выніку гэтых намаганняў сапраўдную перамогу атрымаў дух творчасці. Гэта быў той выпадак, калі палёт творчай фантазіі не стрымліваўся недахопам матэрыяльных сродкаў — бенефіс атрымаўся бліскучм і па-сучаснаму раскошны.

А цяпер пра творчы бок. Поспех бенефіса ў многім залежаў ад пастаноўшчыкаў і ад акцёраў, якія разам з А. Ранцанцам удзельнічалі ў ім. Гэта не была канцэртная праграма з наборам асобных нумароў ці сцэн са спектакляў. Рэжысёр-пастаноўшчык Сусана Цырук распрацавала скразную драматургію гэтага прадстаўлення, дзе ніводны з нумароў нельга замяніць іншым або пераставіць іх месцамі, — настолькі яны звязаныя паміж сабой логікай усяго дзейства. Для ўдзелу ў бенефісе быў запрошаны ўлюбёнец мінскай публікі Аляксандр Кузьмянкоў, які ўжо некалькі гадоў як пакінуў наш тэатр і працуе ў іншай рэспубліцы, але на якога публіка не забылася і была рада новай сустрэчы. Дарэчы, А. Кузьмянкоў — сааўтар С. Цырук у распрацоўцы сцэнарыя і ў пастаноўцы бенефіса. Імі таксама былі зроблены многіяператэкстоўкі вядомых нумароў — з дасціпнасцю і густам, спецыяльна да гэтага выпадку. Сцэнарый “дапамог” А. Ранцанцу паўстаць перад гледачом ва ўсёй шматграннасці свайго акцёрскага майстэрства. Ён валодае яркім драматычным талентам, але спецыфіка жанру музкамедыі не заўсёды дазваляе гэта выявіць, і вось у бенефісе пастаноўшчыкі далі магчымасць акцёру паказаць усяго сябе, раскрыць найбольш яркія грані свайго акцёрскага дару.

Кульмінацыяй сталася новая песня Уладзіміра Кандрусевіча (словы Марыны Кандрусевіч) “Супермен”, першым выканаўцам якой быў сам бенефіцыянт. Атрымаўся найбольш яркі і запамінальны з усіх нумароў праграмы. Майстар камп'ютэрнай гукатэхнікі Вячаслаў Раманоўскі надаў гэтай музыцы эфектнае электроннае гучанне. Артысты балета таксама паказаліся ў гэтым нумары (як і ў многіх іншых) па-новаму. Яны з поспехам даказалі, што класічная харэаграфічная падрыхтоўка не перашкода для манеры танца-мадэрн. Балетмайстар-пастаноўшчык Галіна Шылянкова-Воранава знайшла стылістычнае адзінства пластычнага выражэння ўсяго прадстаўлення, нягледзячы на шматжанравасць і разнастайнасць нумароў праграмы.

Высокі прафесіяналізм і вялікі вопыт балетмайстра разам з майстэрствам рэжысёра спрыялі таму, што прадстаўленне набыло ўсе рысы цэласнай пастаноўкі. Будзем спадзявацца, што правядзенне бенефісаў у нашым тэатры музкамедыі працягнецца як традыцыя. Тым больш, што яшчэ не было доўгачаканага бенефіса ў прымадонны беларускай аперэты Наталлі Гайды, у іншых вядучых салістаў. Але цяжка ўявіць, што народная артыстка пачне хадзіць па камерцыйных фірмах і збіраць сродкі на ўласны бенефіс. Не творчая гэта справа. Добра было б, каб пры СТД ці, напрыклад, пры кожным тэатры існаваў бенефісны фонд, і тады б спонсарская дапамога атрымала б больш устойлівую і цывілізаваную форму.

**Зоя ЛЫСЕНКА**

***На здымках: Арнольд РАНЦАНЦ і яго непаўторныя ролі, яго цудоўныя партнёры — яго бенефіс.***

*Фота Віт. АМІНАВА*









ЛіМ
ЧАСАПІС



## АНАТОЛЮ ФЯДОСІКУ — 70

**Знакаміты даследчык беларускага фальклору, доктар філалагічных навук, прафесар Анатоль Фядосік нарадзіўся ў вёсцы Кашэвічы Петрыкаўскага раёна. Удзельнік партызанскага руху ў Вялікай Айчыннай вайне. З 1961 года працуе ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, з 1969 года — намеснікам дырэктара. А. Фядосік даследуе сатырычныя жанры беларускага фальклору, фальклор перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Адзін з аўтараў кнігі "Беларуская народная творчасць" (1979). Разам з В. Бандарыкам выдаў кнігу "А. К. Сержпутоўскі" (1966). Аўтар кніг — "Развіццё беларускай фалькларыстыкі" (1977), "Беларуская савецкая фалькларыстыка" (1987). А. Фядосік склаў тамы "Сацыяльна-бытавыя казкі" (1976), "Жарты, анекдоты, гумарэскі" (1984) у зборы "Беларуская народная творчасць".**

**Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.**

**Віншуем Анатоля Сямёнавіча з 70-годдзем, жадаем яму і надалей плёну ў жыцці і навуковай дзейнасці!**

## ЧАЛАВЕК. МАСТАК. ФАТОГРАФ



**Творы мастака — гэта яго светапогляд, духоўны свет, яго адносіны да жыцця, да людзей. Магіляўчанін Павел Андрэевіч Цішкоўскі быў мастаком і фатографам. Яго душа была светлай, добрай і паэтычнай. Такія і ягоныя работы.**

**Ён пайшоў з жыцця, калі яму было шэсцьдзесят. Колькі цудоўнага мог бы яшчэ стварыць гэты таленавіты чалавек. Але і тое, што ён пакінуў пасля сябе, заслугоўвае глыбокай удзячнасці.**

**Мінскі Палац культуры прафсаюзаў запрашае ўсіх, хто цікавіцца мастацкай фатаграфіяй, на сустрэчу з творчасцю Паўла Андрэевіча Цішкоўскага — Чалавека, Мастака, Фатографа.**

*На здымку: знаёмства з экспазіцыяй.*

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

## МАМА, Я ХАЧУ Ў... ІЗРАІЛЬ!

**Ваш хлапчук ці дзяўчынка яшчэ не заяўлялі вам такога? Не! Пачакайце, могуць яшчэ сказаць. І не без падстаў на тое. У рамках урачыстасцей, прысвечаных 3000-годдзю Іерусаліма, на Беларусі, як і ў іншых краінах, пачаўся Трэці міжнародны конкурс "Дзеці свету малююць Іерусалім". Цяпер абласныя ўпраўленні культуры адбіраюць найбольш таленавітых канкурсантаў сярод дзетак ва ўзросце ад 7 да 14 гадоў. Лепшыя работы ў канцы красавіка будуць прадстаўлены ў экспазіцыі ў Мінску, дзе і будуць вызначаны прэтэндэнты на галоўны прыз. Ён жа не што іншае, як тыднёвы тур па Ізраілі пераможцы разам... з мамай ці татам па выбары!**

## І... ЗВЫЧАЙНЫ КОШЫК

**Хочаце займець кош, якім было б зручна карыстацца на лецішчы ці ў вёсцы? Падумваеце прыдбаць які-небудзь кошык для прадуктаў? Не супраць таго, каб у гарадской кватэры з'явіўся арыгінальны абажур? Не спяшайцеся на рынак, каб прыдбаць усё гэта. Лепей знайдзіце вольную часіну і... Не багі ж гаршкі лепяць!..**

**Кажаце, не ўмееце? Але ж можна навучыцца. Балазе, цяпер гэта зрабіць не так і складана. Парупілася выдавецтва "Полымя" і выпусціла кнігу М. Дабрыніна "Беларускі кошык". Аўтар — сам аматар пляцення, таму не толькі расказвае аб адным з самых старажытных і па-ранейшаму распаўсюджаных на Беларусі рамёстваў, але і апавядае аб асаблівасцях канструявання, тэхнікі і тэхналогіі пляцення тых жа кошыкаў.**

**І не толькі кошыкаў... Гаворыцца таксама пра матэрыялы, інструменты, што выкарыстоўваюцца падчас работы, даюцца канкрэтныя парады. А да ўсяго — змешчаны малюнкі. На іх і гатовыя вырабы, і тое, як іх плесці.**

Віншуем!

## ЛЕАНІДУ КАЛОДЗЕЖНАМУ — 60



Леанід Калодзежны — родам з вёскі Солаўе Аршанскага раёна. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і, вучыўся ў Віцебскім мастацка-графічным педагагічным вучылішчы, служыў у арміі. Некаторы час быў супрацоўнікам аршанскай раённай газеты "Ленінскі прызыў", з 1961 года — мастак-афарміцель на Аршанскім ільнокамбінаце.

З першым апавяданнем выступіў у 1958 годзе ў літаратурна-мастацкім альманаху "Дзвіна", а ў 1967 годзе быў прадстаўлены падборкай апавяданнняў у "ЛіМе".

Першая кніга Л. Калодзёжнага выйшла ў 1975 годзе. Ужо назвай — "Аўсяны звон" — яна засведчыла, што аўтар па сваёй прыродзе лірык, які, аднак, не адмаўляецца паказваць жыццё ва ўсёй яго складанасці. На першым месцы для Л. Калодзежнага былі маральна-этычныя праблемы. Ён паказваў нашых сучаснікаў людзьмі, якія імкнуцца да душэўнай гармоніі, прагнуць духоўнага хараства і маральнай дасканаласці.

Наступная кніга "Бярозы ў жыце" (1981) таксама жаданне пісьменніка разабрацца ў няпростых пытаннях паўсядзённасці, паказваючы чалавека найчасцей у звыклых, у *многім будзённых абставінах, якія, аднак,* уплываюць не толькі на яго паводзіны, а ў нечым могуць перайначыць і далейшы лёс. Паглыбленым пранікненнем у душы людзей прасякнуты новыя творы Л. Калодзежнага.

Віншуем Леаніда Трафімавіча з 60-годдзем! Жадаем яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!

# АД ПРАДЗЕДАЎ СПАКОН ВЯКОЎ...

## З ДЗЯРЖАЎНАГА СПІСА ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ

У канцы 1992 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны". У *адпаведнасці з гэтым Законам стварае*цца Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, у які ўносяцца найбольш адметныя вынікі і сведчанні гістарычнага і духоўнага развіцця народа Беларусі.

У адпаведнасці з уласцівасцямі і вартасцямі каштоўнасцей ім надаюцца пэўныя катэгорыі.

### ПА НЕРУХОМЫХ КАШТОЎНАСЦЯХ

Да 1-й катэгорыі (уяўляюць міжнародную цікавасць) аднесены:

1. Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій (Курапаты);

2. Вежавы гадзіннік Фарнага касцёла (г. Гродна).

Да 2-й катэгорыі (характэрна для спадчыны ўсяе рэспублікі):

1. Сядзібна-паркавы комплекс "Какорычы" (Мінская вобласць, Капыльскі раён);

2. Фальварак Вайніловічаў (Мінская вобласць, Капыльскі раён);

3. Сядзібна-паркавы комплекс "Кухцічы" (Мінская вобласць, Уздзенскі раён);

4. Сядзібна-паркавы комплекс "Альшэва" (Мінская вобласць, Мядзельскі раён);

5. Музеяфікаваныя аб'екты этнаграфічных комплексаў "Млын" і "Кузня" (Мінская вобласць, г. Заслаўе).

Да 3-й катэгорыі (адметныя рысы гісторыка-культурнай спадчыны асобных рэгіёнаў рэспублікі) аднесены больш як 60 аб'ектаў, сярод якіх:

парк "Нарач" у Мядзельскім раёне, сядзіба Агінскіх у Вілейскім раёне, сядзіба Тышкевічаў у Лагойску, Вадацяжная вежа у Полацку і іншыя.

### ПА РУХОМЫХ КАШТОЎНАСЦЯХ

Да 1-й катэгорыі аднесены:

1. Скарб манет рымскай чаканкі I—II стст. (389 адзінак).

2. Камплект срэбных паясных блях 1 паловы XV—XVI стст.

3. Рукапісы XV—XVI стст.

а) Пралог верасень—люты;

б) Трэфалогіі з сакавіка XVI ст.;

в) Евангеліе, апракос, п. XVI ст.;

г) Жыціе Грыгорыя архіепіскапа Амірыцкага;

д) Тайная тайных, альбо Арыстоцелева врата;

е) Актоіх.

4. Беларускія старадрукі XVI ст.

а-г) Біблія. Першыя—чацвертыя кнігі Царств. Прага. Выд. Ф. Скарыны, 1518 г.;

д-ж) Кніга Еклесіаста; Кніга Песнь песным; Кніга Прэмудрасць — Прага, Выд. Ф. Скарыны, 1518 г.

з-і) Кніга Ісуса Сіракава; Прага. Выд. Ф. Скарыны, 1517 г.;

к) Псалтыр — Вільно; пяч. П. Мсціславец, у хаце Мамонічаў, 1576 г.;

л) Евангеліе навучальнае — Вільно: пяч. В. Гарабурда, 1580 г.;

м-н) Псахтыры с наследаваннем — Вільно: тып. Мамонічаў, 1591—1592 гг., 1594—1595 гг.;

о—р) Евангеліе — Вільно: тып. Мамонічаў, 1600 г.

с-у) Біблія — Брэст Літоўскі, 1566 г.

Да 2-й катэгорыі:

1. Скарб срэбных манет (135 адзінак) XVII ст.

*(Спіс будзе доўжыцца).*

Пошта

# "...ДОБРЫ ЗАКОН, КАЛІ ХТО ІМ ЗАКОННА КІРУЕЦЦА"

Да сваёй дзяржаўнасці беларуская мова прайшла цярністы шлях. З прыняццем "Закона аб мовах...", здавалася б, чакае нас няпростая і нялёгкая праца па яго выкананні. Задача заключалася ў тым, каб дабівацца паляпшэння якасці вывучэння і засваення беларускай мовы і павышэння яе ролі на дзяржаўным узроўні. І сёе-тое стала рабіцца дзеля гэтага. Пачаў ствараццa "ланцужок" у навучальным працэсе, пачынаючы ад дзіцячых садкоў і заканчваючы вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, выйшлі серыі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, адрасаваных тым, хто вывучае беларускую мову як праграмную дысцыпліну, і тым, хто вывучае яе самастойна.

Але апошнім часам працэс пашырэння беларускай мовы штучна прытармажваецца. Пачуліся галасы пра "недасканаласць" і "нераспрацаванасць" беларускай мовы, пра немагчымасць абслугоўвання ёю розных сфер жыцця. Часам ад некаторых нашых кіраўнікоў, асабліва мясцовых, можна пачуць, быццам Закон аб мовах не з'яўляецца абавязковым для выканання. Гэта супярэчыць не толькі канкрэтна гэтаму закону, але і законнасці наогул. Бо калі "можна" не выконваць адзін закон, дык навошта выконваць іншыя? З глыбокай старажытнасці людзі для таго і стваралі законы, каб кіравацца імі ў паўсядзённым жыцці.

Спашлёмся тут на святое пісанне, у якім у далёкія ад нас часы канстатавалася: "Закон мае ўладу над чалавекам, пакуль ён жыве" (Пасланне да рымлян святога апостала Паўла). Да месца прыгадаць тут і мудрыя, прарочыя словы беларускага першадрукара, вучонага-асветніка Францішка Скарыны, у якіх надавалася вялікае значэнне ролі закона і яго выкананню: "Ведаем жа, што добры закон, калі ім хто законна кіруецца".

Забыліся мы і пра факты сваёй гісторыі. Скажам, у Статуце ВКЛ з 1566 года быў уведзены спецыяльны параграф адносна ўжывання ў справаводстве беларускай мовы як дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім: "А пісар земскі па-руску (па-беларуску. — **У. А.**) мае літарамі і словамі рускімі (беларускімі) усе лісты і позвы пісаць, а не іншай мовай і словамі". Чаму? Ды таму, што быў то час, калі паасобныя ўплывовыя сілы Вялікага княства Літоўскага вялі прапаганду на карысць лацінскай або польскай мовы, а не беларускай. Нягледзячы на апазіцыю з боку польскай знаці, каралеўская ўлада была вымушана ўсё ж тады прызнаць беларускую мову афіцыйнай.

Ролю дзяржаўнай мовы беларуская мова выконвала да канца XVII стагоддзя, калі, паводле пастановы Варшаўскага сейма Рэчы Паспалітай 1696 года, яна была выцеснена польскай мовай са сферы афіцыйнай перапіскі. Не прынесла вызвалення беларускай мове і далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі. Наадварот, уціск стаў яшчэ больш жорсткім, адмаўлялася нават існаванне самой Беларусі, а не тое, што такога народа і яго мовы. Аднак беларуская мова не скарылася, засталася жыць у гутарковай, вуснай форме.

І толькі ў першыя паслякастрычніцкія гады беларуская мова стала раўнапраўнай сярод моў іншых народаў былога Савецкага Саюза. Яна фактычна набыла статус дзяржаўнай мовы: ніхто афіцыйна не лічыў яе "недзяржаўнай" і не проціпастаўляў "дзяржаўнай" мове. Але ненадоўга. У сумнавядомыя трыццатыя гады большасць высокаадукаваных носьбітаў беларускай мовы былі рэпрэсаваны. Мова паціху знікала, разам з "неперспектыўнымі" вёскамі... Новы штуршок нашаму Адраджэнню дала толькі перабудова, калі і быў прыняты Закон аб мовах. Многія прынялі яго з радасцю, а многія і з крытыкай: маўляў, ці не на занадта вялікі тэрмін ён разлічаны — ажно на 10 гадоў. Прайшло пяць гадоў і што мы бачым?

Рэальных, істотных змен у моўнай сітуацыі амаль няма. Калі ў першыя гады адчуваўся нейкі "энтузіязм", то сёння прыціхлі і "энтузіясты". Што ўжо казаць пра народ просты. А пасля апошніх выступленняў прэзідэнта, у тым ліку і ў нас, у Гомелі, пачуліся галасы пра двухмоўе, пра рэферэндум, пра тое, што быццам бы нехта забараняе размаўляць на "человеческом языке" і навязвае беларускую мову. Прабачце, але больш памяркоўнага Закона аб мовах, здаецца, не прымалася ні ў адной краіне свету. І пра які прымус можна гаварыць, калі за гэтыя пяць гадоў не атрымалі поўнай магчымасці авалодаць роднай мовай нават тыя, хто хацеў бы гэта зрабіць. Тысячы школ, якія залічаны ў беларускамоўныя, застаюцца на справе рускамоўнымі. Няма ніводнае ВНУ, дзе б навучанне вялося толькі па-беларуску...

І тым не менш, не зважаючы ні на што, нам трэба працаваць і працаваць над адраджэннем роднай мовы. Не апускаць рукі. Палітыкі прыходзяць і сыходзяць, а радзіма і мова — вечныя. І таму лічу — беларускі патрыятычны аптымізм да канца не вычарпаны. Цяжкасці — часовыя. Беларуская мова заслужыла і займе пачэснае месца сярод моў еўрапейскіх. Дарэчы, навуковы свет даўно прыняў яе і адназначна лічыць адною з самых чыстых славянскіх. Прыйдзе час і мы забудземся пра сённяшнія нашыя моўныя праблемы, як забыліся пра іх чэхі, якія адрадзілі сваю мову, як забыліся яўрэі, якія паднялі сваю мову з мёртвых. Наша задача, каб час гэты, нягледзячы ні на якія палітычныя калізіі, прыйшоў як мага хутчэй. А таму — будзем жа выконваць свой закон.

**Уладзімір АНІЧЭНКА, прафесар**

*г. Гомель*

***Не дай Бог каму перажыць тое, што давялося зведаць за сваё жыццё гэтаму мажнаму, сімпатычнаму сваім мудрым спакоем і разважлівай непаспешнасцю чалавеку, на жаль, ужо, як ён сам кажа, "мала хадзячаму". Ледзь не ўсё яно прайшло ў варунках напружанай барацьбы-супрацьстаяння з ідэалагічнымі службамі, існуючымі парадкамі вельмі розных, але ў нечым і блізкіх паміж сабой грамадска-палітычных сістэм, адстойвання сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці. Праз смугу гадоў і дзесяцігоддзяў захаваў і пранёс ён залежы душэўнай чысціні і сумленнасці, вернасць ідэалам праўды і дабра.***

# І ДАРОГА, І БЕЗДАРАЖ...

## ГУТАРКА З ПАЭТАМ АНАТОЛЕМ ІВЕРСАМ

**— Іван Дарафеевіч, з часу вашых народзін прайшло 82 гады. Скажыце, калі ласка, якім вам бачыцца пачатак сваёй пакручастай жыццёвай дарогі сёння, з вышыні пражытага і перажытага?**

— У кожнага чалавека ёсць свая дарога, па якой ён крочыць праз жыццё. Калі на яго шляху сустракаюцца добрыя, душэўныя людзі, яны абавязкова акажуць станоўчы ўплыў. Гэта я зразумеў значна пазней, калі ў крытычныя хвіліны даводзілася перабіраць, нібы клавішы, салодкія, а найбольш горкія ўспаміны.

Нарадзіўся я 15 мая 1912 года ў сялянскай сям'і вёскі Чамяры, што на Слонімшчыне. У першую сусветную вайну наша сям'я, як і большасць аднавяскоўцаў, рушыла ў бежанства. Мала што помню з таго часу. Засталася ў памяці сцежка да нашага гумна, якое стаяла на значнай адлегласці ад хаты, бо на нашым грудку былі малыя, вузкія прысядзібныя надзелы... І яшчэ засталося ў памяці, як мы цягніком пераязджалі недзе па высокім мосце Волгу. Па рацэ плылі лодкі, і мне здавалася, што плюхаюцца жабы.

Наша сям'я (дзед, баба і яшчэ адна бабасваячка, маці і я, не помню, ці быў тады з намі бацька) апынулася аж у Казанскай губерні.

Бацька часта, адрываючыся ад сельскай гаспадаркі, працаваў на будаўніцтве дарог. Вось калі мы едзем у Гродна праз Бераставіцу, то едзем па той шашы, якую будаваў бацька. А ў бежанстве, калі мы ўжо перабраліся ў Кіеў, ён працаваў на будаўніцтве чыгуначнага палатна.

На працу бацька часта браў і мяне, мы ехалі на дрызіне, і гэта было вельмі цікава. Аднойчы ён узяў мяне ў кар'ер, адкуль возчыкі на падводах вазілі жвір на насып будучай дарогі. Пад абед падзьмуў халодны вецер, і возчыкі, выпрагшы і пусціўшы на траву коней, селі ў кар'еры абедаць. Далучыліся да іх і мы з бацькам.

Гэты абедзенны перапынак я, можа, і не запомніў бы, каб не здарыўся досыць страшны выпадак. Адзін з коней скуб траву пры самым краі абрыву. Зямля абсунулася, і ён паляцеў уніз недалёка ад таго месца, дзе мы сядзелі ў зацішку. Усе перапалохаліся, а грабар Міна Бажэжа здзівіўся: "І якая халера кабыламі кідаецца?!" Прозвішча я запомніў таму, што, прыйшоўшы дадому, бацька расказваў аб гэтым выпадку маці і назваў гэтага чалавека.

Я пытаўся ў бацькі, чаму некаторыя землякопы палову свайго абеду аддавалі іншым. Бацька адказваў: "А як жа інакш — мы людзі, і трэба, каб усе пад'елі, трэба дапамагаць адзін аднаму".

"Мы — людзі"... Мне зрабілася ніякавата за сваё пытанне.

Маці... Яна заўсёды з хваляваннем чакала нас, непакоілася, калі затрымліваліся, іншы раз плакала. "Чаго ты плачаш?" — пытаўся бацька, хоць добра ведаў прычыну. І я ведаў. Яна вельмі сумавала па радзіме. Мне было шкада маці. Заразіўшыся яе сумам, я таксама не мог дачакацца, калі мы нарэшце вернемся ў родную вёску. А выехаць было не так проста, бо на цягнікі не бралі цывільных людзей.

**— І ўсё ж такі неўзабаве сям'я выправілася ў далёкае падарожжа...**

— Было гэта пад восень 1918 года. Аднойчы бацька досыць рана і ў добрым настроі вярнуўся з працы. "Ну, рыхтуйцеся, — сказаў ён, — заўтра паедзем дадому. Я купіў каня з возам".

І вось мы, паклаўшы на воз сціплы дамашні скарб, выехалі ў дарогу. Колькі дзён ехалі з Кіева — не памятаю. Толькі не магу забыць жудасную ноч, калі праязджалі Ружанскую пушчу. Галасілі совы, было страшна. Пад абед паказалася родная вёска. Гумно згарэла, а хата і хлеў ацалелі, вакол амаль у рост чалавека буялі лебяда, крапіва, іншае пустазелле.

**— Радзіма сустрэла, можна меркаваць, не вельмі прыветна...**

— Так, пачалося новае жыццё — галоднае. Сала і мукі, што прывезлі з Украіны, хапіла ненадоўга. Да мукі дабаўлялі сушаную і молатую ў жорнах ліпавую кару. Варылі і елі крапіву, лебяду.

Дарэчы, мы павезлі з сабою яшчэ адзін трафей — вялікую жалезную рыдлёўку, якую на памяць паклаў нам у воз Міна Бажэжа. Такімі рыдлёўкамі грабары накідалі на фурманкі пясок, меншымі нічога не зарабілі б. Цікава, што пры панскай Польшчы і пры "тых Саветах" у магазінах я ніколі не бачыў такіх вялікіх рыдлёвак. Назвалі мы яе "стаханаўкай".

Можа, праз год вярнуліся з Казанскай губерні дзед і дзве бабы. Дзед Іван і бабасваячка не вытрымалі галадухі, апухлі і памерлі. Асабліва шкада было дзеда, ён вельмі моцна мяне любіў. Дзед быў добрым бондарам, цэлымі днямі працаваў, з гэтай працы і жылі на выгнанні. Помню, як ён абрэзваў клёпкі на розных дзежачках і кадушачках. З абрэзаных кавалачкаў я складваў саставы цягнікоў, што замянялі мне дзіцячыя цацкі.

Трагічны лёс нашай сям'і. Яшчэ ў Казанскай губерні памерла мая сястрычка Ксеня. Ужо ў Чамярах нарадзілася другая сястрычка — Галя. Дзіця сядзела ў падвешанай да столі калысцы. І трэба ж здарыцца такому няшчасцю — парвалася ў адным з чатырох вуглоў вяроўка, калыска пахілілася. Галя ўпала, стукнулася аб падлогу галоўкай, хварэла (а лекаў і ўрачоў не было) і памерла.

І што дзіўна. У 1914 годзе нас выгналі з роднага селішча. А ў 1918 годзе мы вярнуліся, калі тут гаспадарылі тыя ж немцы. Словам, трапілі ў такую калатнечу, што цяжка было ўявіць. У студзені 1919 года на Слонімшчыну прыйшлі бальшавікі, а ў першых днях сакавіка з'явіліся палякі. У ліпені 1920 года палякаў выгналі чырвонаармейцы, а праз чатыры месяцы тут амаль на дваццаць гадоў усталявалася Польшча.

Такі ваенны водаварот, частыя змены ўлады вельмі ўскладнялі і да таго незаможнае жыццё. Для нас чатырохмесячная савецкая ўлада ледзь не закончылася смерцю бацькі. Справа ў тым, што яго, як пісьменнага, бальшавікі прызначылі сакратаром валаснога Савета. Змяніўся рэжым, і польскія ўлады пачалі вылоўліваць былых савецкіх служачых, якіх жандармерыя расстрэльвала. Прыйшлі арыштоўваць і бацьку. Але ён непрыкметна выскачыў праз акно ў агарод, доўга хаваўся ў лесе.

У Слоніме жыў заможны яўрэй па прозвішчы Квінт. Па нашай просьбе ён уступіў у перамовы з павятовымі ўладамі, каб не чапалі бацьку. За гэту паслугу прыйшлося аддаць яму таго каштанавага каня, на якім мы прыехалі з Кіева. Неўзабаве вярнуўся з лесу зарослы да непазнання бацька. Знешне ён нечым нагадваў Міклуху-Маклая.

**— Іван Дарафеевіч, а як было з вашай вучобай — пра гэта вы пакуль што нічога не сказалі. Колькі слоў пра сваё далучэнне да вабнага свету кніжных патаемаў.**

— Яшчэ на Украіне бацька навучыў мяне чытаць па-руску. А тут — Польшча... "Ідзі, — кажа, — перавучвайся".

Асвоіўся, перабудаваўся я ў польскай школе хутка, хоць спачатку было цяжка і прыкра. Але чытаў па-польску, а думаў папростаму, па-тутэйшаму.

І вось у 1922 годзе мне трапіла ў рукі кніга вершаў Янкі Купалы "Гусляр", якая перавярнула ўсё маё нутро, дала імпульс другому нараджэнню на свет, на свет роднай беларускай літаратуры, беларускай свядомасці. З той пары я пачаў шукаць кнігі беларускіх аўтараў. Трапляліся творы таго ж Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Францішка Багушэвіча, Канстанцыі Буйло і інш.

Любоў да роднага краю, да роднай мовы, да нашай нацыянальнай літаратуры і паклікала мяне ў 1926 годзе ў Вільню, у беларускую гімназію.

Лічу шчасцем, што маімі настаўнікамі былі такія выдатныя дзеячы, як Ігнат Дварчанін, Рыгор Шырма, Сяргей Паўловіч. З цяперашняй дыстанцыі прыемна прыгадаць Браніслава Тарашкевіча, Сымона Рак-Міхайлоўскага, ксяндза Адама Станкевіча, мастака Язэпа Драздовіча і іншых, каго даводзілася бачыць уласнымі вачыма.

У беларускай гімназіі ўпершыню ўбачыў жывых паэтаў Міхася Васілька і Алеся Салагуба. Васілёк прыязджаў у Вільню і выступаў у гімназіі на сцэне:

**Не буралом то гне хвайняк,**
**Не гром з-пад зорнай вышыні, —**
**То моладзь, буйны маладняк**
**Куе жыцця святыя дні.**

Амаль усе прыезджыя з паветаў вучні жылі ў інтэрнаце. Гэта была дружная сям'я. Кожны хлопец, прыехаўшы з канікулаў, расказваў аб жыцці сваёй вёскі, бясчынствах паліцыі, аб змаганні сялян за свае правы, беларускую школу. У такім асяроддзі ўсе мы шчыльней гуртаваліся і мацней гартаваліся. Вечарамі, пасля падрыхтоўкі да заўтрашніх урокаў, моладзь чытала мастацкую літаратуру, у тым ліку і беларускую, якая выдавалася як у Вільні, так і Мінску.

Выраслі ў інтэрнаце і свае паэты. У першую чаргу я маю на ўвазе Валянціна Таўлая. Яго вершы траплялі нават на старонкі беларускіх газет. У такіх умовах жыцця і вучобы і я пачаў пісаць вершы. Не мог не пісаць. Бо настаўнік Ігнат Дварчанін, які выкладаў у нас беларускую мову і літаратуру, так цікава і даходліва, так захапляюча расказваў пра творчасць пісьменнікаў, што хацелася самому паспрабаваць, хоць крыху быць падобным да іх.

Правучыўся я ў Вільні 1926, 1927 і палову 1928-га года. Дырэктар Р. Астроўскі пачаў па адным выкідаць з гімназіі няўгодных яму старшакласнікаў. Натуральна, узнік пратэст, за што і ўхапіўся Астроўскі. Выклікаў паліцыю, якая арыштавала каля сотні вучняў. Некалькі старэйшых затрымалі, а такіх, як я, паліцыя развезла і здала бацькам пад распіску. Спрабаваў я вучыцца ў Клецкай і Навагрудскай беларускіх гімназіях, але і там не знайшлося для мяне месца — звальнялі за нацыянальна-вызваленчую дзейнасць.

Рэпутацыя перад польскімі акупацыйнымі ўладамі была падмочана і шлях у далейшую навуку адрэзаны. Паліцыя не давала спакою і на вёсцы, часта арыштоўвала, катавала, рабіла ў хаце, гумне і хляве "рэвізію", шукаючы "бібулы" (камуністычнай літаратуры), але нічога не знаходзіла ні ў матчыным палатне, ні ў снапах, якія скідалі на ток, мяшаючы жыта, ячмень і авёс. Два разы судзілі па выдуманых абвінавачваннях.

**— Іван Дарафеевіч, у якасці сваіх настаўнікаў вы назвалі вядомых і аўтарытэтных на абсягах Заходняй Беларусі грамадска-культурных дзеячаў І. Дварчаніна, Р. Шырму і С. Паўловіча. А ці не маглі б вы прыгадаць колькі ўласцівых ім характарыстычных штрыхоў — адносна знешняга выгляду, паводзін, асаблівасцей унутранага свету?**

— Ігнат Дварчанін прыходзіў на ўрок заўсёды акуратна апрануты, вясёлы, прыветлівы. Гэтым адразу выклікаў прыхільнасць да сябе. І што характэрна — ніколі не злаваў, не павышаў голас на вучняў. Гімназісты лічылі яго сваім старэйшым сябрам. А сяброў, як вядома, нельга падводзіць, і ўрок праходзіў звычайна весела, з вялікай цікавасцю.

Рыгор Раманавіч Шырма, у параўнанні з І. Дварчанінам, выглядаў вышэйшым. Трымаў сябе, так бы мовіць, больш ганарова. Аднак і ён быў простым чалавекам. Заўсёды мог шчыра пагаварыць з вучнем, нешта яму па-бацькоўску парадзіць. У гэтым раскрывалася яго сялянская душа. У нашым класе вёў пазапраграмнае чытанне лепшых твораў рускай літаратуры, умеў прапагандаваць прагрэсіўных аўтараў.

Сяргей Канстанцінавіч Паўловіч, які ў гімназіі выкладаў рэлігію, быў невысокага росту. Здавалася, ён не ўваходзіў, а ўкачваўся ў клас. Свой прадмет ведаў добра, але ніколі не навязваў боскай святасці. Быў памяркоўным, добрым чалавекам.

**— А што б вы маглі сказаць пра літаратурнае жыццё ў Заходняй Беларусі? Якой яго панарама вам бачыцца зараз?**

— Літаратурнае жыццё ў Заходняй Беларусі не замірала, развівалася. Акрамя папулярнага ў народзе Міхася Васілька, выраслі Максім Танк, Міхась Машара. Узмужнелі ў барацьбе Пілíп Пестрак, Валянцін Таўлай, Мікола Засім. Падымаўся здольны маладняк — Алесь Дубровіч, Алесь Мілюць, Сяргей Крывец, Пятрусь Граніт, Ніна Тарас, Ганна Новік і інш. Нягледзячы на праследаванні і тэрор пакрысе пісаў вершы і я, дасылаў у часопісы "Беларускі летапіс" і "Калоссе".

Тут я назваў паэтаў, якія, за выключэннем старэйшых, выраслі літаральна на маіх вачах. Усе яны стаялі на цвёрдай пазіцыі змагання за адраджэнне Беларусі ў самым шырокім значэнні гэтага слова. Былі і іншыя, відаць, не менш таленавітыя пісьменнікі, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё беларускай нацыянальнай культуры. Гэта мой зямляк, слонімскі нашанівец Гальяш Леўчык, Хведар Ілляшэвіч, Казімір Сваяк, Наталля Арсеннева — паэтка, якой мог бы ганарыцца любы народ. Усе яны розныя па характары сваёй творчасці, але гэтым і цікавыя.

**— Як далей складвалася ваша біяграфія?**

— Маё заходнебеларускае жыццё з верасня 1926 па верасень 1939 года, як я ўжо сказаў, знаходзілася пад пільным вокам шпікоў і паліцыі. Тым не менш я не ўхіляўся ні ад якой грамадска-культурнай працы. Наша вясковая моладзь была вельмі актыўная. Ладзіла вечарыны, дэкламавала вершы беларускіх паэтаў, ставіла спектаклі. Праўда, не заўсёды ўдавалася атрымаць дазвол на вечарыну, якая карысталася вялікай папулярнасцю ў сялян навакольных вёсак. Апошні спектакль чамяроўскіх артыстаў-самадзейнікаў адбыўся на другі дзень праваслаўнага Вялікадня 1937 года.

Вялікай падзеяй у маім жыцці быў выхад у свет зборніка вершаў "Песні на загонах". Аўтарскія дзесяць экземпляраў я атрымаў у Слоніме па пошце недзе ў пачатку другой дэкады верасня 1939 года. Паны ўжо разбягаліся, але пошта яшчэ працавала. Ледзь жонка паспела пакласці ў сумачку пакет, як за плячыма вырас вядомы на Слонімшчыне супрацоўнік дэфензівы Шварц: "Ты цо ту робіш?" Адказаў, што хачу купіць канверт. І ён растаў у тлуме...

Нягледзячы на рэпрэсіўныя адносіны польскіх улад, у войска польскае мяне ўзялі. Служыў я ў горадзе Плоцку ў кавалерыі — чацвёртым палку конных стралкоў. Там было шмат хлопцаў з Заходняй Беларусі, і наадварот, на "крэсы ўсходнія" прысылалі палякаў. Такая ўжо была ў паноў палітыка —ператасоўвалі, нібы карты, розныя нацыянальнасці так, каб верхаводзіць. Для пілсудчыкаў такая палітыка лічылася больш надзейнай.

Паколькі на той час я меў значную, амаль сярэднюю адукацыю, мяне залічылі ў чацвёрты (школьны) эскадрон, дзе можна было даслужыцца да яфрэйтара, а то і да капрала. Праз некалькі тыдняў выклікаюць да камандзіра эскадрона і аб'яўляюць, што пераводжуся ў запасное падраздзяленне. Чаму? "З пана не бэндзе добрэго езьдзьца". Разанула аж пад рабрыну, бо ведаў, што гэта грубая хлусня. У чацвёртым эскадроне заставаліся нават нязграбныя і малаадукаваныя ўланы.

Але нічога не зробіш, загад ёсць загад. У той жа дзень я паўстаў перад новым камандзірам эскадрона грузінскім белаэмігрантам маёрам Паўленішвілі, які адразу вызначыў: "Бэндзеш цьвічыл (трэніраваць) млодых коні". Кажу, што мяне якраз і адправілі ў запасны эскадрон як няздольнага ездака. Нечакана пан маёр з грузінскім акцэнтам выпаліў: "Плэвал я на политику! Мнэ нужно обучат лошадэй".

(Працяг на стар. 14)

ЛіМ
ЧАСАПІС



## З ДУМКАЙ АБ БЕЛАРУСІ

**Чарговы вечар з цыкла “Тайна знічнага святла” сабраў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прыхільнікаў таленту С. Законнікава. Сяргей Іванавіч выступаў, безумоўна, у некалькіх іпастасях. Як паэт, як публіцыст, як галоўны рэдактар часопіса “Полымя”. І хоць гэтым вечарам ва ўтульнай зале гаспадарыла паэзія, не лішне сказаць, што больш за ўсё прысутныя маглі пазнаёміцца з С. Законнікавым як з адным найбольш актыўных руплівцаў на ніве нацыянальнага Адраджэння. Клопатна і ўстрывожана, занепакоена і ў той жа час упэўнена гаварыў ён пра тое, што робіцца ў дзяржаве ў гэтым кірунку і што яшчэ неабходна зрабіць; заклікаў моладзь (яна ж асноўны кантынгент падобных вечароў, якія праводзіць Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра “Зніч” на чале з Г. Дзягілевай), каб яна пашырала шэрагі тых, хто лічыць сябе свядомым беларусам, дбае аб будучыні Бацькаўшчыны.**

## АД ПАЛАНІЗАЦЫІ ДА РУСІФІКАЦЫІ

**З матэрыялаў, што прапануе ў сваім першым нумары часопіс “Адукацыя і выхаванне”, нельга не звярнуць увагу на артыкул С. Сяльверставай “Ад паланізацыі да русіфікацыі. Старонкі гісторыі”. Публікацыя абвяргае распаўсюджаную думку нібы аб добраахвотным выбары на тэрыторыі Беларусі рускай мовы ў якасці паўсядзённых узаемаадносін. Выкарыстоўваючы багатыя архіўныя матэрыялы, аўтарка паказвае, што ў свой час у царскай Расіі была распрацавана прадуманая і мэтанакіраваная сістэма суцэльнай русіфікацыі насельніцтва так званага “Северо-Западного края”. А дзеля дасягнення пастаўленай мэты на Беларусь накіроўваліся надзейныя (“благонадежные православные”) выкладчыкі, найперш тыя, хто паходзіў з цэнтральных губерняў. Мясцовая ж інтэлігенцыя праследавалася, ёй не знаходзілася работы ў органах асветы.**

**Змешчаны і іншыя матэрыялы адраджэнскага кірунку. У прыватнасці, В. Болбас у артыкуле “Не толькі свечу мей...” разглядае этыка-педагагічныя погляды Зізанія. Г. Жылінскі на прыкладзе Полацкага княства паказвае, як ствараласяя наша дзяржава — “З гісторыі фарміравання дзяржаўнасці ў беларусаў”.**

## ТРЭЦІ ТОМ

**выбраных твораў Барыса Сачанкі выйшаў у выдавецтве “Мастацкая літаратура”. У ім змешчаны аповесці пісьменніка “Запіскі Занядбайлы”, “Дарога ў Хатынь”, “Баравое рэха”, “Родны кут” і іншыя. Змест першых двух тамоў склалі, як вядома, раман “Вялікі Лес” і некаторыя іншыя творы. Тым самым прыхільнікі таленту Б. Сачанкі атрымалі магчымасць перагарнуць тыя старонкі яго прозы, што найбольш сведчаць аб адметнасці почырку гэтага майстра слова.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**Паэту Аляксею КОРШАКУ 22 лютага споўнілася б 75 гадоў. Ураджэнец вёскі Вуглы Капыльскага раёна, ён у 1938 годзе скончыў Капыльскую сярэднюю школу. У 1938—1941 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. У час вайны жыў у Капылі. У 1944 годзе быў прызваны ў армію, стаў разведчыкам. Загінуў А. Коршак 27 лютага 1945 года ва Усходняй Прусіі.**

**Літаратурную дзейнасць пачаў у 1937 годзе. У рэспубліканскім друку ўпершыню выступіў на старонках “ЛіМа” (1938). Падрыхтаваў да друку зборнік “Пялёсткі”. Асобныя творы А. Коршака змяшчаліся ў зборніках “Мы іх не забудзем” (1949), “Крывёю сэрца” (1967). У 1963 годзе выйшла кніга “Апаленыя пялёсткі”. Яна ж была перавыдадзена “Мастацкай літаратурай” у дапоўненым выглядзе — вершы, лісты, успаміны пра паэта.**

**400 гадоў назад, 24 лютага 1595 года нарадзіўся новалацінскі паэт, тэарэтык літаратуры, філосаф Мацей Казімір САРБЕЎСКІ (памёр 2 красавіка 1640 года). Выкладаў у Полацкай (1618—1621, 1626—1627) і Нясвіжскай езуіцкіх калегіях, у Віленскай езуіцкай акадэміі (1628—1635). Аўтар кніг паэзіі, трактатаў па рыторыцы, паэтыцы і антычнай міфалогіі. Даследаваў стылістычныя асаблівасці паэзіі, мастацкія сродкі аратарскай прозы. Некаторыя вершы яго перакладаў на польскую мову У. Сыракомля.**

**Творчасць М. К. Сарбеўскага даследаваў У. Конан. У прыватнасці, у “Весцях АН БССР” (серыя грамадскіх навук у першым нумары за 1972 год) змешчаны яго артыкул “Полацкі курс паэтыкі М. К. Сарбеўскага”.**

# І ДАРОГА, І БЕЗДАРАЖ...

*(Пачатак на стар. 13)*

І я “обучал”. За салдацкі працоўны дзень па некалькі гадзін ездзіў на кожным з трох коней. А коні як звяры. Не толькі скідалі ездака, але і не даваліся, каб на іх садзіўся. Асабліва небяспечна было ехаць на “пшэшкоды”. Накіруеш каня на шчыт з ядлоўцу, за якім шырокая траншэя, ён імчыць, як страла, і не можа зарыентавацца, каб пераскочыць роў. Вельмі часта валіцца ў гэты роў разам з кавалерыстам. Усё адбываецца імгненна, і бяда таму, хто не паспее выняць са страмёнаў ногі. Колькі пакалечылася хлопцаў! Здараліся і смяротныя выпадкі.

У войска я прыйшоў у 1934 годзе. Ішоў 1935 год. Будучы яшчэ ў чацвёртым эскадроне, на вячэрнім опэлі (паверцы) я атрымаў пісьмо ад бацькі. Чытаў гэтае пісьмо крадком, з-пад коўдры, бо прагучаў загад: “Вшыстко храпе!” Бацька пісаў прыкладна так: “Во первых строках своего письма спешу известить, что мать твоя уже в могиле...” і г. д. Яе забіў легкавым аўтамабілем п’яны памешчык Гадлеўскі пры самай броўцы шашы. Таму паліцыя паспяшалася схаваць сляды злачынства, засыпаць кроў пяском. Вядома, ніякага суда не было.

Нядаўна мне расказалі, што Гадлеўскі праз некаторы час пасля забойства прыязджаў да бацькі, хацеў уручыць у знак “ одшкодованя” (кампенсацыі) некалькі злотых. Бацька схапіў дручка і да пана. Гадлеўскі ледзь паспеў дабегчы да легкавушкі.

Пасля няшчаснага здарэння бацька пісаў начальству, каб мяне датэрмінова звольнілі з войска, бо ён застаўся з дзесяцігадовым сынам і няма каму працаваць на гаспадарцы. І я не даслужыў да канца тэрміну.

З прыходам Чырвонай Арміі мяне запрасілі на працу ў рэдакцыю раённай газеты “Вольная праца”. Першы нумар газеты падрыхтавалі з прысланым у Слонім рэдактарам Іосіфам Антонавічам Чарняўскім і выпусцілі ў свет 26 верасня 1939 года.

**— Я ведаю, Іван Дарафеевіч, вельмі драматычным перыядам у вашай біяграфіі з’яўляюцца ваенныя гады. Зазвычай, як і ва ўсіх тады...**

— Вайна застала мяне ў Слоніме. Праз некалькі дзён удалося дабрацца з жонкай да бацькі на хутар. Там і пачаўся новы этап маёй біяграфіі. Я маю на ўвазе стварэнне падпольнай антыфашысцкай арганізацыі, якая праз год ахапіла амаль усе значныя населеныя пункты раёна. Падпольшчыкі сабралі і перадалі партызанам больш за дзве тысячы вінтовак і аўтаматаў, дзвесце кулямётаў розных марак, шмат гранатаў, больш за паўмільёна патронаў і інш.

З пашырэннем дзейнасці антыфашысцкага падполля ў сельскай мясцовасці і ўзнікненнем партызанскіх груп і атрадаў настала неабходнасць стварэння падпольнай арганізацыі ў Слоніме, якая галоўным чынам займалася б разведкай.

Узначальваць гарадское антыфашысцкае падполле даручылі мне. Каб легалізавацца ў Слоніме, паступіў на працу ў гарадскую ўправу на незайздросную пасаду памочніка бухгалтара фінаддзела. Паколькі я ведаў беларускую мову, то потым бургамістр Аляксандр Кіслы перавёў мяне ў агульны аддзел справаводам, дзе дакументацыя вялася па-беларуску. Тут і пачалася мая разведпраца.

25 лістапада 1943 года прыйшлося тэрмінова пакінуць горад. У выніку адной правакацыі ў гэты дзень фашысты пачалі арышты падпольшчыкаў. Арыштавалі Леаніда Сеньчыка, Мікалая Мінчука, маю жонку Веру і інш. Пакінулі горад Георгій Пыцель, другі наш эсдовец Георгій Касцюкевіч і я. Усе мы накіраваліся ў розныя атрады, я — у Слонімскую брыгаду імя Ракасоўскага (атрад імя Дзяржынскага).

Слонімшчына была вызвалена ад нямецкіх захопнікаў 10 ліпеня 1944 года. З цяжкім смуткам ступіў я на вызваленую зямлю, бо даведаўся, што фашысты знішчылі ў лагеры Калдычэва жонку і бацьку (яго арыштавалі крыху пазней). Брат загінуў у партызанах. Так я з чатырохасабовай сям’і застаўся адзін.

Вярнуўся ў горад, зноў пачаў працаваць у рэдакцыі раённай газеты. Ажаніўся. У 1946 годзе нарадзіўся сын. Пакрысе пачаў прыходзіць да нармальнага стану...

**— Але выпрабаванні не закончыліся. Палітычны недавер прад’явіла вам трэцяя па ліку ўлада, на гэты раз савецкая...**

— Так, відаць, я нарадзіўся пад нешчаслівай зоркай. Пачаліся ганенні. 1 верасня 1947 года быў звольнены з працы ў рэдакцыі газеты “по решению Бюро Барановичского обкома” (так запісана ў працоўнай кніжцы). А вусна сакратар абкама Ажгірэй заявіў: “Не внушаете политического доверия”.

Нечаканы ўдар ашаламіў мяне. Я не ведаў, што рабіць, куды кінуцца. І тут на дапамогу мне прыйшоў былы камісар партызанскага атрада імя Дзяржынскага Іван Якаўлевіч Дабрыян, якога ў гэты час прызначылі старшынёй гарсавета. Ён паклікаў мяне на пасаду сакратара гарсавета, але там я прабыў нядоўга.

Шукаў пасля хоць якую працу, каб мець сякі-такі кавалак хлеба. Шукаў ды не знаходзіў. Усюды, куды ні заходзіў, чуў адзін адказ: “Нет свободных мест”. У той жа час ЦК КПБ і абкам партыі прысылалі да нас плойму новых работнікаў, якія неслі русіфікацыю. Дарэчы, можа, адной з прычын майго звальнення было і тое, што я заўсёды гаварыў па-беларуску і за гэта насіў ярлык нацыяналіста.

І толькі мой аднакашнік па Навагрудскай беларускай гімназіі Уладзімір Арцюз, дырэктар Баранавіцкага хімлеспрамгаса, прыняў мяне на сваё прадпрыемства. Так з лістапада 1949 года па май 1966 года я працаваў у Баранавіцкім, а потым у Слонімскім хімлясгасах на розных пасадах, найбольш знаходзячыся ў лесе.

У маі 1966 года вярнуўся ў рэдакцыю газеты, адкуль у 1972 годзе выйшаў на пенсію.

У першай палове шасцідзесятых гадоў перажыў яшчэ адну навалу: выкінулі з Саюза пісьменнікаў БССР, хацелі выкінуць падборку вершаў з калектыўнага зборніка “Сцягі і паходні”. Змагаўся і адстаяў сябе. Не кранулі падборкі, аднавілі ў саюзе.

Доўгі час не давалі даведкі аб падпольнай і партызанскай дзейнасці: “Нет данных”. А дадзеныя былі ў партархіве. Нарэшце зацвердзілі антыфашысцкую арганізацыю, але ў спісы ўнеслі толькі каля ста чалавек, у той час, як іх налічвалася ў дзесяць разоў больш. Пасля зацвярджэння арганізацыі атрымаў дакумент з партархіва і пайшоў яго мяняць на Пасведчанне партызана Беларусі. Слонімская камісія, аднак, не выдала пасведчання — відаць, усё яшчэ адрыгалася “политическое недоверие”. І толькі 24.XII.79 атрымаў-такі зялёны дакумент. А там напісана: “Кіраўнік Слонімскай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі, намеснік камандзіра атрада імя Ф. Э. Дзяржынскага брыгады К. К. Ракасоўскага Баранавіцкай вобласці”.

Былі ганенні і на жонку Ніну Паўлаўну Міско. У прыватнасці, яна была выключана з камсамола. Сабраўшы некалькі даведак, мы апелявалі ў Баранавіцкі абкам камсамола. Жонку дапытвалі, дамагаліся, каб сказала, што я выступаю супраць Савецкага Саюза, прыводзілі ў прыклад “подзвіг” Паўліка Марозава. Аднак з подлых дамаганняў партапаратчыкаў нічога не выйшла. Мусілі вярнуць камсамольскі білет, толькі запісалі вымову. Білет яна ўзяла, а вось на камсамольскія сходы больш не пайшла.

У пасляваенныя гады выйшлі тры мае зборнікі паэзіі: “З пройдзеных дарог”, “Жыву ў бацькоўскім краі” і “Я пайшоў бы ўслед за летам...”

**— А што для вас самае галоўнае ў творчасці, паэзіі?**

— Мне здаецца, што трэба пісаць праўду, паказваць хараство роднага краю, роднай мовы, паэтызаваць стваральную працу, змагацца супраць хлусні, якою апутвалі нас. Калі ўсім гэтым праймецца чалавек, то ён мацней будзе стаяць за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны.

**Гутарыў**
**Мікола МІКУЛІЧ**

# НАВОШТА Ж ВЯРТАЦЦА НАЗАД?

***У канцы снежня мінулага года ў Доме літаратара прайшоў "круглы стол" "БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА НА ШЛЯХУ АДРАДЖЭННЯ". Правялі яго мінская гарадская рада таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і Упраўленне адукацыі Мінскага гарвыканкама. У ім бралі ўдзел амаль паўсотні чалавек. Сярод іх — сябры ТБМ, кіраўнікі і супрацоўнікі Ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама, старшыня камісіі па адукацыі і інспектар па выкананні Закона "Аб мовах" Мінгарвыканкама, дэпутаты гарсавета, кіраўнікі раённых аддзелаў адукацыі, дырэктары і завучы школ, дырэктары гімназій, загадчыкі дзіцячых садкоў, метадысты і выхавацелі дашкольных устаноў, настаўнікі, загадчыкі кафедраў і выкладчыкі ВНУ, навукоўцы, пісьменнікі, журналісты.***

***Удзельнікі "круглага стала" прынялі зварот да міністра адукацыі і навукі В. Стражава наступнага зместу.***

Так сталася, што своеасаблівым індыкатарам дзяржаўнага суверэнітэту Краіны Беларусь была і застаецца мова карэннага этнасу — беларуская мова. Гэта пацвярджаецца і тымі падзеямі, якія разгортваюцца апошнім часам вакол беларускай мовы. Пры маўклівай падтрымцы дэнацыяналізаваных колаў вышэйшай улады пачаўся наступ на беларускую школу, беспрэцэдэнтны паклёп на беларускую мову, ахайванне ўсяго беларускага. Робіцца гэта з адной мэтай — спыніць працэс нацыянальнага Адраджэння, не даць нашаму народу пабудаваць суверэнную дзяржаву. Усё гэта не можа не трывожыць тых, хто неабыякавы да лёсу народа, яго будучыні. Зноў выцягваецца на свет жупел ідэолагаў светлай будучыні — двухмоўе. Вынікі гэтага дзікага эксперыменту над нашай беларускай нацыяй добра вядомы. Многія беларусы сёння не валодаюць ні роднай беларускай, ні рускай мовамі, карыстаюцца так званай трасянкай. Нягледзячы на тое, што насельніцтва мае даволі высокі адукацыйны цэнз, культурны ўзровень яго паніжаецца, ідзе дэградацыя маладога пакалення, расце злачыннасць у грамадстве.

Вяртанне да двухмоўя — гэта шлях у імперыю, адмаўленне ад дзяжаўнага суверэнітэту, гэта разбурэнне беларускай культуры, пазбаўленне яе спецыфічных рысаў, дэмакратызму і гуманізму. Усялякія размовы аб неабходнасці для дзяржавы Рэспубліка Беларусь двухмоўя — гэта ні што іншае, як дэмагагічны прыём, палітычны лозунг, шырма, за якой і далей будзе праводзіцца дэнацыяналізацыя, а значыць і дэмаралізацыя беларускага народа.

Мова — гэта не толькі сродак камунікацыі. Мова — сродак культуры, універсальная форма захавання ведаў, адлюстраванне псіхалогіі народа. Двухмоўе раздвойвае асобу, бо чалавек не можа адначасова існаваць у дзвюх культурах (ён можа і павінен успрымаць і ведаць як мага больш культур іншых народаў — гэта зусім іншае).

Нас, паважаны Васіль Янавіч, *здзіўляе* і глыбока абурае тая акалічнасць, што Міністэрства адукацыі і навукі прымае спешныя патаемныя захады, каб ужо з 1-га верасня 1995 года пачаць (зноў вярнуцца ў мінулае) вывучэнне рускай мовы ў беларускамоўных школах з першага класа. Для чаго? Ці вы хочаце ўвайсці ў гісторыю беларускай школы, культуры ў чорным колеры?

Досведамі псіхолагаў-лінгвістаў, практыкай школы даўно даведзена, што блізкае двухмоўе неабходна ўводзіць на больш высокіх ступенях навучання, калі дзіця добра ўсвядоміць граматычную структуру роднай мовы, асвоіць патрэбную для маўлення колькасць слоў. У адваротным выпадку нават пры самай дасканалай методыцы не пазбегнуць інтэрферэнцыі, узаемапранікнення моўных сістэм. Пастаянны самакантроль абцяжарвае памяць вучняў, з’яўляецца прычынай неўрозаў, заікання. Спантанная ж размова дзяцей адбываецца на беларуска-рускай трасянцы. Усе гэта адмоўна ўплывае на псіхічнае і інтэлектуальнае развіццё дзяцей, перакрэслівае саму ідэю нацыянальнай школы.

Мы, удзельнікі “круглага стала”, заклікаем вас, паважаны Васіль Янавіч, пераглядзець гэтую сваю пазіцыю і не пераносіць яе на дзяржаўны ўзровень. Сённяшняя палітычная сітуацыя вельмі хісткая. Можа стацца так, што ваша паспешнае рашэнне хутка прыйдзецца адмяняць. Навошта ж марна траціць грошы, час, а галоўнае — траўміраваць псіхіку дзяцей, зняверваць бацькоў у мэтазгоднасці навучання дзяцей у беларускамоўных школах.

Мы заклікаем вас няўхільна выконваць Закон “Аб мовах” і Закон “Аб адукацыі”, Канстытуцыю, зрабіць усё магчымае, каб маладое пакаленне беларусаў мела магчымасць вучыцца і выхоўвацца ў роднамоўным беларускім інфармацыйным асяроддзі на ўсіх ступенях, расло здаровым, нацыянальна свядомым і культурным, каб нашы нашчадкі добрым словам памяталі імя міністра Стражава.

